2 чэрвеня 2017 | № 21 (535)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

«Курапаты» пра Курапаты
стар. 10

5 НАС ТРЫМАЮЦЬ НЕ НА ЛАНЦУГАХ, А Ў БУТЭЛЬЦЫ

Калі мы разважаем пра сродкі кантролю аўтарытарнай дзяржавы над грамадствам, што прыходзіць нам на розум?



6–7 МАРЫ ТАЦЦЯНЫ ГРЫНЕВІЧ

Шмат якія мары Таццяны ўжо здзейсненыя. Але самая вялікая лейтматывам праходзіць праз усё яе жыццё, не даючы прыпыніцца, — оперныя спевы

8 КАЛІ Б НЕ БЫЛО БЖЭЗІНСКАГА...

Бжэзінскі паспеў папярэдзіць амерыканскую эліту, што старыя шаблоны больш не дзейнічаюць



11 «АНТЫСАВЕЦКІЯ АГІТАТАРЫ»

Шмат тых, хто трапіў пад каток сталінскіх рэпрэсій, не рэабілітаваныя і цяпер, больш за тое, некаторыя нават не лічыцца ахвярамі рэпрэсій

# Як абараніць дзяцей ад дзяржавы?

## З дзіцячымі праблемамі дзяржава абыходзіцца гэтак жа, як і з дарослымі



Сяргей ПУЛЬША

Я шчэ з савецкіх часоў мы ўсе ведаем, што 1 чэрвеня святкуецца Міжнародны дзень абароны дзяцей. Але ў сучаснай Беларусі гэта свята такое ж дэкаратыўнае і дэкларатыўнае, як і ў СССР.

За прыкладамі далёка хадзіць не трэба: як ні згадаць нядаўнюю гісторыю з пераносам часу заняткаў у школе? Яна паказальная ў плане стаўлення дзяржавы да дзяцінства ўвогуле.

Нагадаем, Аляксандр Лукашэнка вырашыў, што заняткі ў школах трэба пачынаць у 9 гадзін раніцы. Міністэрства адукацыі начало выконваць пажаданне кіраўніка дзяржавы і дасылаць у школы цыркуляры з патрабаваннем пачынаць заняткі пазней. Чым паставіла ў тупік і вучняў, і іх бацькоў, і настаўнікаў — то бок, усё грамадства ў цэлым. І раптам (інакш у нас не бывае) высветлілася, што адукацыйная сістэма — не «дзіцячая» праблема, і завязаная на шмат «дарослых» спраў.

Напрыклад, што рабіць бацькам, якія едуць на працу раней? Міністэрства адукацыі паспрабавала адкруціцца: маўляў, можна дзяцей прыводзіць у школу, як і раней, але заняткі павінны пачынацца ў дзевяць. «Лішнюю» гадзіну з вучнямі павінны сядзець настаўнікі. А ці падлічыў хто, як узрасце нагрузка на і без таго занятых па самыя вушы настаўнікаў?

Пасоўванне заняткаў руйнуе звыклы графік і пазашкольнай адукацыі: кружкоў, клубаў і іншага. Усяго на адну гадзіну больш у школе — і першы гурток з трох да пяці. Другі, адпаведна, з шасці да васьмі? А калі «дамашку» рабіць?

Гледзячы на дзяржаўную палітыку ў сферы абароны дзяцінства, узнікае ўяўленне, што яе няма. Ці, прынамсі, яна насамрэч — другасная. Бо ўсё яшчэ няма разумення таго, пра што казалася напачатку: яна наўпрост завязаная на дарослыя праблемы. І наадварот.

Тая ж рэформа пенсійнай сістэмы альбо дэкрэт пра дармаедаў. Каму прыйшло ў галаву выкінуць з працоўнага стажу тэрмін адпачынку па доглядзе за дзіцём? Пасля гэтага мы сур'ёзна будзем казаць пра «дэмаграфічны крызіс» і нарошчванне насельніцтва ў Беларусі? Мы будзем шчыра заклікаць жанчын нараджаць другое, трэцяе і чацвёртае дзіця, каб потым пакінуць гэтых жанчын без пенсіі?

Увогуле, з дзіцячымі праблемамі дзяржава абыходзіцца літаральна гэтак жа, як з дарослымі. Мы шмат чуем пра клопат пра дзяцінства з экранаў тэлевізараў, а ў рэальнасці бачым зусім іншае. У выніку «рэфармавання» адпачынку і рэабілітацыі «чарнобыльскіх» дзяцей за мяжой многія з іх страцілі шанец кудысці паехаць: цяпер на першым месцы апынуліся дзеці чыноўнікаў і сілавікоў, а тыя, каму патрэбная дапамога, — у канцы спісу.

А ў некаторых выпадках на «клопаце пра дзяцей» чыноўнікі імкнуцца і нават падзарабіць. Мы памятаем, напрыклад, ініцыятыву Анатоля Тозіка (тады віцэ-прэм'ера), які ў 2014 годзе прапанаваў штрафаваць бацькоў за тое, што іх дзеці прапускаюць дзіцячы садок.

Ці тое ж палажэнне дэкрэту пра дармаедства: калі дзіцё садок наведвае, то маці ці бацька, якія афіцыйна не працуюць (і не важна, што ў іх дзіцё ад трох да сямі гадоў), лічацца «дармаедамі», і, адпаведна, падпадаюць пад той самы падатак.



**Па тэлевізары нам кажуць, як клапоцяцца пра дзяцей, а бачым мы зусім іншае**

Можа, дзяржава заклапочаная дзецьмі-інвалідамі? Вялікі вэрхал узняўся ў грамадстве з нагоды публікацыі ў інтэрнэт-часопісе «Імёны» артыкула пра мінскі дом-інтэрнат для дзяцей-інвалідаў з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця. З-за адсутнасці належнага харчавання дзеці там ператвараліся ў натуральных дыстрофікаў: важылі ў 19 гадоў 15 кілаграмаў! Зусім не дзяржава, а неабыякавыя грамадзяне ўзнялі гэтую праблему і пачалі збіраць сродкі для дзяцей на харчаванне. Улады ж звярнулі ўвагу на сітуацыю ў дзіцячым інтэрнаце толькі пасля вялікага розгаласу.

Затое калі трэба выкарыстаць дзяцей, каб ціснуць на «залішне актыўных» бацькоў — тут ніхто не цырымоніцца. Пагрозы прызнаць сем'і апазіцыянераў нядобранадзейнымі і забраць дзяцей гучаць рэгулярна. Праз адабранне дзяцей спрабавалі ціснуць на намесніка старшыні КХП-БНФ Юрася Беленькага, Крысціну Шацікаву, Таццяну Андрэеву. У снежні 2010-га пасля затрымання Андрэя Саннікава і яго жонкі Ірыны Халіп сацыяльныя службы спрабавалі адабраць у бацькоў Халіп малалетняга сына арыштаваных Данііла. Зараз такія ж спробы былі ў дачыненні да журналісткі Ларысы Шчыраковай і экс-намесніка старшыні Руху «За Свабоду» Алеся Лагвінца. Цікавы «клопат пра дзяцінства», ці не так?

«Дзіцячыя» праблемы наўпрост паказваюць самую вялікую хібу нашай дзяржаўнай сістэмы: адсутнасць зваротнай сувязі паміж народам і кіраўніцтвам. Калі б такая зваротная сувязь была, і праекты дзяржаўных рашэнняў не залежалі ад настрою аднаго чалавека, а выносіліся б на грамадскае абмеркаванне, усе праблемныя зоны рэформаў былі б высветленыя і скасаваныя ў самым пачатку. У адказ на патрабаванне Лукашэнкі пачынаць заняткі ў дзевяць раніцы міністр адукацыі б сказаў: «Гэта руйнуе ўсю ўсталяваную сістэму. Грамадства супраць». І прывёў бы адпаведныя разлікі.

Але ў тым уся і справа, што дзяржава — аўтарытарная. Зваротнай сувязі паміж ёю і грамадствам няма. Дакладней, улада проста не хоча чуць тое грамадства — да таго часу, пакуль яно не выйдзе на вуліцы, як было гэтай вясной.

# Праваабаронца арыштаваны на 15 сутак

**30 мая каля 10-й гадзіны вечара супрацоўнікамі міліцыі РАУС Першамайскага раёна Віцебска быў затрыманы праваабаронца Павел Левінаў. Пра гэта паведаміў яго брат Андрэй Левінаў.**

Пасля затрымання праваабаронца быў дастаўлены ў ІЧУ УУС па Віцебскай вобласці, дзе цягам 15 сутак ён будзе адбываць адміністрацыйнае пакаранне.

Павел Левінаў паспеў напісаць у сваім Facebook, што на працягу гэтага тэрміну будзе праводзіць маніторынг умоваў утрымання ў ІЧУ і апублікаваў адпаведнае накіраванне-заданне ад Беларускага Хельсінкскага Камітэту.

Нагадаем, што 17 красавіка суддзя суда Кастрычніцкага раёна Віцебска Іна Грабоўская пастанавіла пакараць Левінава 15-суткавым арыштам за ўдзел у несанкцыянаваных акцыях 25 і 26 сакавіка. Суд праходзіў завочна — Левінаў у гэты час знаходзіўся на лячэнні за межамі Беларусі. Спроба абскардзіць рашэнне раённага суда поспеху не прынесла: Віцебскі абласны суд пакінуў яго ў сіле.

5 мая, пасля вяртання ў Беларусь, Павел Левінаў быў затрыманы віцебскімі міліцыянтамі, аднак з-за павышанага ціску наўпрост з ІЧУ трапіў у бальніцу. Праз некалькі дзён яму была зроблена аперацыя. З бальніцы праваабаронца выпісаўся толькі на мінулым тыдні.

**spring96.org**

# Віншуем пераможцаў!

**Рэдакцыя «Новага Часу» 29 мая, у дзень нараджэння Аляксея Караля, узнагародзіла маладых журналістаў і аўтараў — пераможцаў конкурсу яго імя.**

Цырымонія ўзнагароджання прайшла ў арт-прасторы «Тартак».

Ідэя конкурсу належыць Ірыне Віданавай — дачцэ Аляксея Караля. Ён заўсёды хацеў бачыць у рэдакцыі больш маладых людзей і больш тэкстаў маладых аўтараў у газеце.

«Цяжка паверыць, што два гады таму — менавіта ў бацькаў дзень народзінаў — мы даведаліся, што дыягназ лятальны. Так атрымалася, што прачытала гэты ліст я, але, апрануўшы ўсмешку і сукенку, я пайшла віншаваць яго, каб нічога не выдавала, што чакае наперадзе. Мы памятаем, што ён цудоўна выглядаў і не збіраўся нікуды сыходзіць. І ўвесь гэты час у нас у сям'і ёсць адчуванне, што ён побач», — сказала Ірына Віданава падчас цырымоніі.

Матэрыялы ацэньваліся ў трох намінацыях: найлепшы грамадска-палітычны матэрыял, найлепшы сацыяльна-эканамічны матэрыял і найлепшы культурна-гістарычны матэрыял. Пераможцы вызначаліся рэдакцыяй і чытацкім галасаваннем.

Але наміінаваны на конкурс матэрыялы рэдакцыя НЧ палічыла настолькі якаснымі, што ў выніку вызначыла па два пераможцы ў кожнай намінацыі.

У намінацыі «грамадска-палітычны матэрыял» за артыкул «Справа "касінера ў пагонах", альбо Як знішчаюць патрыётаў», першае месца атрымаў Алесь Кіркевіч. Другое заняў Мікалай Дзядок («Дармаедскія» пратэсты і перспектыва Майдану»).

У намінацыі «сацыяльна-эканамічны матэрыял» лепшай была Вікторыя Чаплева з рэпартажам з чарнобыльскай зоны «Нібыта і не было гэтай катастрофы...». Другое месца — Уладзіслаў Рубанаў («Букет кветак замест дзіцяці з сіндромам Дауна»).

За культурна-гістарычны матэрыял першае месца атрымала Алена Ляшкевіч («Засцянковая Атлантыда Фларыяна Чарнышэвіча»). Другое — Дзіяна Пінчук («Вогненная вёска Алеся Адамовіча»).

Пераможцы атрымалі ўзнагароды не толькі ад рэдакцыі «Новага Часу», але і ад партнёраў конкурсу — кампаніі «Будзьма беларусамі!» і Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Уручаючы ўзнагароды ў намінацыі «культурна-гістарычны матэрыял», старшыня СБП Барыс Пятровіч (Сачанка) адзначыў, што ў наступным годзе, магчыма, з'явіцца чацвёртая намінацыя — «За літаратурна-крытычны матэрыял». Таму што, на яго думку, літаратурная крытыка ў Беларусі не ў вельмі добрым становішчы, і маладых аўтараў, якія працуюць у гэтым жанры, трэба падтрымаць.

Матэрыялы-пераможцы і ўсе конкурсныя матэрыялы можна прачытаць у адмысловым раздзеле на сайце novychas.by.

# Курапаты павінны стаць не толькі помнікам гісторыі

Марат ГАРАВЫ

**Гістарычна-культурная каштоўнасць міжнароднага значэння «Месца згубы ахвяраў палітычных рэпрэсій 1930–1940-х гадоў ва ўрочышчы Курапаты» павінна набыць статус помніка прыроды.**

Да такой высновы прыйшлі ўдзельнікі круглага стала «Як вырашыць экалагічныя праблемы Курапатаў?», што 30 мая адбыўся ў Мінску.

У сваім дакладзе «Ацэнка стану аб'ектаў расліннага свету на тэрыторыі ўрочышча Курапаты», падрыхтаваным «Інстытутам эксперыментальнай батанікі імя Васіля Купрэвіча Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі», Ігар Корзун («Гарадскі лясніччы») зазначыў, што пасля навуковага маніторынгу стану прыроднага асяроддзя, які неабходна правесці ў Курапатах адпаведным спецыялістам, у тым ліку батанікам, біёлагам і глебазнаўцам разам з валанцёрамі, трэба дамагчыся мараторыю на любую гаспадарчую дзейнасць на тэрыторыі народнага мемарыялу і яго наваколля атачэння.

Гэтыя і іншыя крокі, у тым ліку прызначэнне спецыяльнага даглядчыка курапацкага лесу, фрамаванне ўзлеску і кулісаў урочышча, а таксама ўвядзенне запаведнага статусу для часткі ягонай тэрыторыі даюць магчымасць захаваць, у тым ліку, некаторыя найбольш маляўнічыя сухія і паваленыя дрэвы, якія стануць сімваламі трагедыі, што адбылася ў старым хваёвым бары ў 1930–1940-я гады. Для бяспечнага існавання і захавання Курапатаў ім неабходна надаць статус помніку гісторыі і прыроды, упэўнены Ігар Корзун.

На думку мовазнаўцы і грамадскага дзеяча Вінцука Вячоркі, грамадскім актывістам, якія працуюць у Курапатах, неабходна не толькі строга выконваць усе рэкамендацыі спецыялістаў-эколагаў, але і выпрацаваць пералік дзеянняў, катэгарычна забароненых у запаведным лесе.

Увага прысутных была звернутая і на тое, што мэтай ініцыятывы «Эксперты ў абарону Курапатаў», створанай напрыканцы 2013 года, стала вяртанне Курапатаў у грамадскую свядомасць. Дзякуючы мэтанакіраванай і сістэматычнай працы, што ўключала судовыя працэсы ў абарону Курапатаў, даследаванні ў галіне гістарычнай тапаграфіі ляснога ўрочышча, распаўсюд ведаў пра трагедыю ў ім, а таксама захадам па ўшанаванні памяці бязвінна забітых нашых продкаў, дзяржава далучылася да прыборкі курапацкага лесу і працэсу мемарыялізацыі. І сёння пра Курапаты гавораць і пішуць не толькі незалежныя, але і афіцыйныя СМІ, а дзяржава пайшла на правядзенне адмысловага творчага конкурсу па мемарыялізацыі ляснога ўрочышча.

Паколькі даследаванне «Ацэнка антрапагеннага ўздзеяння на стан атмасфернага паветра на тэрыторыі ўрочышча Курапаты» яшчэ працягваецца, вырашана другую частку круглага стала правесці ў жніўні.

Трэба адзначыць, што да ўдзелу ў круглым стале былі запрошаныя эколагі, прадстаўнікі грамадскіх і дзяржаўных структур, у тым ліку міністэрстваў культуры, прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, лясной гаспадаркі, архітэктуры і будаўніцтва. Аднак чыноўнікі праігнаравалі гэтую важную для лёсу Курапатаў падзею.

Яе арганізавала грамадская ініцыятыва «Эксперты ў абарону Курапатаў» пры падтрымцы шэрагу структураў грамадзянскай супольнасці, у тым ліку Таварыства беларускай школы, ГА Беларуская асацыяцыя ахвяраў палітычных рэпрэсій, «Цэнтра «Супольнасць», «Дыярыуша» і «Хрысціянскай злучнасці «Курапаты», Грамадскага электроннага архіву «Вытокі», Беларускай асацыяцыі журналістаў, суполкі «Пагоня» Беларускага саюзу мастакоў, Саюзу беларускіх пісьменнікаў, Асамблеі няўрадавых дэмакратычных арганізацый Беларусі, прафсаюзу РЭП, «Арт-Сядзібы» і Праваабарончага цэнтру «Вясна».

Выказваю шчырую падзяку грамадскаму дзеячу Арцёму Быстрыку з «Цэнтру экалагічных рашэнняў» за вялікі ўнёсак у падрыхтоўку круглага стала.

# Каб ведалі, і каб не паўтарылася

Алесь САМЕЦ

**У Карэліцкім раёне каля вёскі Вялікая Слабада 9 мая быў адкрыты мемарыяльны знак у гонар камандзіра асобнага партызанскага атраду Дзмітрыя Семянцова.**

Пра гэтую гісторыю «Новы Час» пісаў у №48 ад 16 снежня мінулага года. Семянцоў быў забіты іншым партызанскім камандзірам — Дзмітрыем Дзянісенкам.

Адкрыццё знака адбылося ціха і амаль непрыкметна для жыхароў Карэліцкага раёна. З мясцовай школы ды з Турэцкага сельсавету прывезлі некалькі школьнікаў, настаўнікаў ды прадстаўнікоў улады. З Карэліч адкрыццё наведаў намеснік старшыні Карэліцкага райвыканкаму, начальнік аддзела культуры і ідэалагічнай работы, галоўны рэдактар раённай газеты «Полымя». Прыняў удзел у мерапрыемстве і аўтар гэтых радкоў з сябрамі.

Дзіўна і невытлумачальна адсутнічалі на мерапрыемстве прадстаўнікі раённай арганізацыі ветэранаў і ваенкамата.

Наогул, адкрыццё гэтага знака нават не было ўключана ў праграму святкавання Дня Перамогі. Стварылася ўражанне, што трагічныя падзеі тых часоў нехта працягвае хаваць ад грамадства, прымушаючы разглядаць гісторыю праз прызму раней створаных міфаў і ідэалагічных догмаў, у якіх «героі» насамрэч аказваюцца забойцамі.

Карэліцкая раённая газета сваю нататку, прысвечаную адкрыццю памятнага знака, напісала так, што недасведчаны чытач можа падумаць: Семянцова забілі немцы альбо паліцаі. У ёй ані слова пра даказаны факт: партызана забіў іншы партызан.

І ў тым жа нумары «Полымя» змешчаны іншы матэрыял, дзе пералічваюцца ўсе рэгаліі і ўзнагароды забойцы Семянцова — Дзмітрыя Дзенісенкі. Нібыта, ён і застаецца сапраўдным героем.

Пасля публікацыі ў «Новым Часе» гісторыі забойства Семянцова, у вёсцы Тарасавічы Карэліцкага раёна на мясцовых могілках мне паказалі два пахаванні. У адным з іх ляжаць чатыры чалавекі сям'і Рокач: бацька Уладзімір, маці Марыя і іх дзеці Ніна і Віця — 10 і 6 гадоў. У другой магіле — сям'я Шэўка: бацька Нупрэй, маці Марыя і іх дзеці — Ганна, Аляксандр, Ніна і Уладзімір. Даты смерці на помніках аднолькавыя — жнівень 1943 года.

Як распавеў мне адзін са сваякоў пахаваных, пляменнік Марыі Рокач Іван Віктаравіч Шэўка, старэйшых сыноў з гэтых сем'яў забралі ў партызанскі атрад Дзянісенкі. Праз некаторы час яны адтуль сышлі: адзін падаўся ў Навагрудак на вучобу, другі — у іншы партызанскі атрад.

У якасці помсты за «дэзерцірства» байцы атраду Дзенісенкі за адну ноч забілі дзве сям'і і спалілі іх хаты. Не пашкадавалі нават шасцярых малых дзяцей.

Прозвішчаў і іменаў забітых «дзенісенкаўцамі» людзей не знойдзеш у кнізе «Памяць» Карэліцкага раёна, пра іх не пішуць у афіцыйнай прэсе. Як і пра іншых бязвінна загінулых ахвяр партызанскага тэрору. Усё меней застаецца жывых сведкаў, якія могуць распавесці пра ўжо далёкія і трагічныя падзеі.

Справа сумлення ўсіх, каму неабыякавая праўда і справядлівасць — гісторыкаў, краязнаўцаў, супрацоўнікаў музеяў, настаўнікаў, вучняў, — адшукваць сведкаў тых падзей і занатоўваць іх расповеды пра мінулае. Падаецца, толькі так мы можам напісаць сапраўдную гісторыю нашай Бацькаўшчыны.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Эканомім капейку, марнуем рубель

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Крохкае паляпшэнне эканамічных паказчыкаў краіны, падаецца, затлуміла галовы яе кіраўніцтву. І яно, кіраўніцтва, вырашыла, што ўсё ў нас добра. А таму можна марнаваць грошы направа-налева.**



Не, канешне, «эканомія і беражлівасць» застаюцца адным з нашых прыярытэтаў. Аляксандр Рыгоравіч, пераабраны старшынёй Нацыянальнага алімпійскага камітэту, вырашыў у ім пашукаць грошы, выказаўшы адначасова незадаволенасцю працай рэвізійнай камісіі. Падчас алімпійскага сходу ён заслухаў дзяжурную справаздачу гэтай камісіі НАК Беларусі, згодна з якой, натуральна, усё добра. І адразу ж папрасіў Дзяржкантроль праверыць бухгалтэрыю НАК.

«Вы кажаце, што не было ніякіх парушэнняў, усё было нармальна», — заўважыў Лукашэнка, і пацікавіўся, чым былі абумоўлены ў свой час прэтэнзіі праваахоўных органаў да выканкаму НАК, напрыклад, у сферы будаўніцтва. «Тут Леанід Васільевіч (Анфімаў, старшыня КДК) прысутнічае. Я папрашу, праверце справаздачу рэвізійнай камісіі. Яшчэ раз паглядзіце на даходы-выдаткі. Разам з Адміністрацыяй прэзідэнта паглядзіце, куды яны трацілі гэтыя грошы, ці правільна. Нельга на вачах у прэзідэнта дапускаць такіх агульных дакладаў рэвізійнай камісіі. Урэшце, гэта велізарныя грошы. І трэба паглядзець, хто куды ў камандзіроўкі ездзіў, ці можна было туды не ехаць», — зазначыў Лукашэнка.

Падаецца, усё слушна: калі ёсць магчымасць зэканоміць у наш няпросты час, трэба гэта рабіць. Але тады варта так рабіць паслядоўна. З аднаго боку, мы шкадуем тысячы долараў на камандзіроўкі (у выніку некаторых з іх наша краіна атрымала права на правядзенне Чэмпіянату свету па хакеі), а з іншага — выкідваем у паветра мільёны.

Напярэдадні канферэнцыі НАК той жа Лукашэнка заслухоўваў справаздачу аб правядзенні вайсковага параду да Дня Незалежнасці ў Мінску. Ці адмовіўся ад яго кіраўнік дзяржавы, каб ашчаджаць сродкі? Не, наадварот «даручыў арганізаваць яго на высокім узроўні». «Грошай на гэта шкадаваць не варта, тым больш што яны не такія і вялікія», — заявіў ён.

Канешне, можа быць, і невялікія. Але наўрад ці камандзіроўкі НАК пацягнуць на мільён долараў — гэта сярэдні кошт параду, выведзены незалежнымі эканамістамі і экспертамі. І гэта — без уліку таго, што танкі ў чарговы раз раскалашмацяць асфальт у цэнтры сталіцы, якія потым давядзецца класці наноў. Рамонт дарог пасля танкаў у кошт параду не ўваходзіць.

Яшчэ адна нятанная цацка — сістэма «вялікага брата», як называюць яе грамадзяне краіны. Маецца на ўвазе сістэма маніторынгу грамадскай бяспекі, указ пра стварэнне якой падпісаў Аляксандр Рыгоравіч. Мяркуецца, што яна запрацуе праз 2–3 гады ў выглядзе міжведамаснай дзяжурнай часткі і замкне на сабе інфармацыю па меншай меры з 10 тысяч камер назірання па ўсёй краіне. А каштаваць усё гэта будзе 100 мільёнаў долараў.

Прычым, відаць, гэтыя 100 мільёнаў часткова «распіляць». Таму што больш чым на 7 тысячах аб'ектаў па ўсёй краіне камеры відэаназірання ўжо ўсталяваны. Сярод аб'ектаў — кавярні і крамы, вакзалы і школы, стадыёны і бальніцы. Зразумела, пачнуць усталёўвацца дадатковыя камеры, але ці сапраўды гэта каштуе такіх грошай?

Як паведамляецца, увасабляць праект у жыццё, пачынаючы ад набыцця «жалеза» і заканчваючы эксплуатацыяй, будзе тэхнічны аператар, якога выберуць па конкурсе. Нам кажуць, што гэта будзе альбо дзяржаўная кампанія, альбо «надзейны прыватнік, гатовы стаць інвестарам».

Вы верыце ў тое, што прыватнік «гатовы стаць інвестарам» у справу, якая будзе знаходзіцца пад кантролем сілавікоў і гарантавана не прынясе аніякага прыбытку? Я — не. Магу ўявіць толькі аднаго такога: арганізаваныя злачынныя групоўкі і розныя «злодзеі ў законе». Вось гэтым дакладна трэба ахвяраваць «абшчаком» і інвеставаць грошы ў сістэму відэаназірання — каб потым, шляхам розных маніпуляцый з праграмным забеспячэннем, выключыць магчымасць «засветкі» ў гэтай сістэме сваіх людзей. Хіба толькі такі «інвестар» знойдзецца.

Не дзіва, што, паглядзеўшы на нашу «эканомію», нам не хочуць даваць грошай. Як паведаміў на тыдні міністр фінансаў Беларусі Уладзімір Амарын, Беларусь пакуль так і не атрымала абяцаны Расіяй крэдыт на 700 мільёнаў долараў, пра які дамовіліся Лукашэнка і Пуцін 3 красавіка. Гэтае пытанне, па словах Амарына, яшчэ знаходзіцца ў стадыі «актыўнай прапрацоўкі».

«Акрамя гэтага, Мінфінам не выключаныя запазычанні на камерцыйных умовах з дапамогай размяшчэння дзяржаўных аблігацый на знешнім фінансавым рынку», — дадаў ён.

У той жа час Амарын паведаміў, што ў гэтым годзе нам трэба пагасіць знешні дзярждоўг у памеры 1 мільярда долараў, а ў студзені 2018 года — еўрааблігацыі ў памеры 800 мільёнаў «зялёных». «Здзейсніць выплаты толькі за кошт даходаў бюджэту раўназначна канфіскацыі значнага аб'ёму рэсурсаў з эканомікі. Таму мы і звяртаемся да рэфінансавання. Мінфін на пастаяннай аснове праводзіць работу па пошуку найбольш аптымальных па кошце і тэрмінах пазыковых рэсурсаў», — дадаў чыноўнік.

То бок, краіна ператвараецца (калі ўжо не ператварылася) у «фінансавую піраміду» — аддаём старыя пазыкі за кошт пазыкаў новых. І пры гэтым працягваем марнаваць так неабходныя грошы на парады ды дзіўныя назіральныя сістэмы.

І яшчэ адна цікавая навіна. У Беларусі будзе адменена патрабаванне рэгістрацыі банкамі пашпартных дадзеных фізічных асоб, якія набываюць замежную валюту. Адпаведны ўказ Лукашэнка падпісаў 29 мая. Згодна з дакументам, Нацыянальнаму банку даручана ў трохмесячны тэрмін прыняць захады па яго рэалізацыі.

Як паведамляецца, указ распрацаваны «ў мэтах лібералізацыі валютнага рэжыму і спрашчэння парадку правядзення валютна-абменных аперацый». Пры гэтым набыццё валюты на суму больш чым у 1000 базавых адзінак усё роўна будзе ажыццяўляцца па пашпарце.

Нагадаем, што электронная сістэма ўліку куплі валюты па пашпарце была ўведзена ў Беларусі з 1 кастрычніка 2011 года, у разгар валютнага крызісу, калі менш чым за паўгода нацыянальная валюта дэвальвавалася практычна ў тры разы. Зараз такой праблемы пакуль няма.

У інтэрнэце жартуюць і злуюцца: «Па пашпарце ці без пашпарту, але з такімі заробкамі ў беларусаў няма грошай, каб тую валюту набываць».

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### Агнешка Рамашэўска-Гузы



**Беларускамоўны тэлеканал «Белсат» збіраецца адкрыць рускамоўную праграму.**

Пра гэты намер паведамляе сайт Wirtualna Polska са спасылкай на дырэктарку тэлеканала Агнешку Рамашэўску-Гузы.

Рамашэўска-Гузы пацвердзіла «Радыё Свабода», што на тэлеканале «Белсат» з'явіцца праграма на рускай мове, — з мэтай знайсці новых гледачоў і інвестараў, якія дапамогуць каналу працягваць дзейнасць. «Гэта пытанне прынцыпаў, бо русіфікацыя Беларусі з Польшчы была б нечым фантастычным. А мова — гэта адна з нямногіх рэчаў, якія адрозніваюць Беларусь ад Расіі. Аднак застаецца фактам, што большасць беларусаў размаўляюць па-руску. Трэба ў гэта папросту далікатна ўвайсці», — тлумачыць яна. Яна хоча, каб выхад у эфір рускамоўнай праграмы «Белсату» стаў пачаткам новага, большага праекту, накіраванага на гледачоў з цэлага рэгіёну.

Кіраўніца «Белсату» мяркуе, што рускамоўныя перадачы дапамогуць знайсці іншыя крыніцы фінансавання. Застаецца пытанне, ці не згубіць з-за гэтага канал сваю аўдыторыю.



### Аляксандр Косінец

**Аляксандр Косінец прызначаны памочнікам кіраўніка Беларусі. Адпаведны ўказ падпісаў Аляксандр Лукашэнка.**

Аляксандр Косінец нарадзіўся ў 1959 годзе ў вёсцы Роскі-Сялец Аршанскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыў Віцебскі дзяржаўны медынстытут, магістратуру эканамічнага факультэта БДУ.

У 2005–2008 гадах — намеснік прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь. У 2008–2014 — старшыня Віцебскага аблвыканкама. Член Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу чацвёртага і пятага скліканняў. Кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта з 2014 года, у снежні 2016-га вызвалены ад пасады ў сувязі з пераводам на іншую працу.

«Антыжурналіст» Віктар Малішэўскі ў Фэйсбуку з нагоды гэтага прызначэння адзначае: «У гэтым прызначэнні ўсё цудоўна, але асаблівa тое, што ў новай (скарочанай і аптымізаванай) структуры Адміністрацыі прэзідэнта няма такой пасады — памочнік прэзідэнта». Сапраўды, ёсць пасады памочнікаў па канкрэтных пытаннях. Але агульнай «пасады памочніка», як падае гэта прэс-служба кіраўніка дзяржавы, — няма.

### Аляксандр Хацкевіч



**Былы настаўнік зборнай Беларусі мае намер спагнаць кампенсацыю з Беларускай федэрацыі футбола за сваё заўчаснае звальненне праз Спартыўны арбітражны суд у Лазане.**

АБФФ спыніла кантракт з Хацкевічам 6 снежня 2016 года. Пры гэтым тэрмін пагаднення быў разлічаны да лістапада 2017-га. Старшыня АБФФ Сяргей Румас тады тлумачыў, што такое рашэнне было прынята пасля таго, як Хацкевіч адмовіўся пайсці на памяншэнне заробку (па некаторых дадзеных, ён меў 240 тысяч еўра ў год).

«Таму што па якасці гульні і выніку каманда не здзейсніла прасоўвання наперад, то фінансавую частку кантракту трэнера было вырашана скарэктаваць у бок змяншэння. Аляксандр Мікалаевіч прыняў гэта да ўвагі і ўзяў час на роздум. Днямі мы зноў сустрэліся. Хацкевіч паведаміў, што ўмовы федэрацыі прыняць не можа. Таму кантракт скасаваны», — казаў Румас.

Пасля адстаўкі Хацкевіча футбольны агент Вадзім Шаблях заявіў, што АБФФ спыніла кантракт, не маючы на тое падстаў. У студзені стала вядома, што Хацкевіч мае намер спагнаць з АБФФ кампенсацыю за датэрміновае скасаванне кантракту. Трэнер звярнуўся ў футбольны арбітраж АБФФ з пазовам, у якім патрабаваў прызнаць, што яго кантракт скасаваны без паважнай прычыны. Мяркуючы па ўсім, рашэнне футбольнага арбітражу АБФФ не задаволіла спецыяліста, і ён вырашыў шукаць праўду ў Лазане.

а | Азбука паліталогіі

# Правіла Караткевіча, або Сучасная палітычная міфатворчасць



Сяргей НІКАЛЮК

**«Разуменне — гэта таксама дзеянне, прычым больш істотнае, чым удзел у тых ці іншых прамых грамадзянскіх акцыях».**

Пачну з цытаты, запазычанай у экс-кіраўніка Вярхоўнага Савета Станіслава Шушкевіча: «У нас цудоўная краіна, ёсць чым ганарыцца. І вось далей працуе правіла Караткевіча: краіна — выдатная, а начальства — паганае».

Такі погляд на крыніцу беларускіх праблем не можа не радаваць. Па-першае, таму што ў чорна-белай карціне свету, прадстаўленай зубрам беларускай палітыкі, большасць чытачоў НЧ наўрад ці суаднясе сябе з «паганым начальствам». Іншая справа — пачуццё прыналежнасці да «цудоўнай краіны»! Колькі тут можна адшукаць падстаў для пазітыўных эмоцый! Па-другое, максімальна спрошчаная карціна свету дапамагае знайсці адзіна правільнае выйсце з сітуацыі, якая склалася. І выйсце гэта палягае ў замене «паганых» начальнікаў на «непаганых».




Аднак рэалізацыя простых рашэнняў часам сутыкаецца з нечаканымі перашкодамі. Як тут ні прыгадаць гісторыю пра мышэй, ката і званочак. У тэорыі ўсё проста: праблема бяспекі мышэй можа быць вырашана шляхам замацавання званочка на шыі драпежніка. Аднак рэалізаваць гэту тэорыю на практыцы яшчэ ніводнай мышы не ўдалося.

На жаль, як справядліва заўважыў Ліс з «Маленькага Прынца»: «Няма ў свеце дасканаласці», і таму радасць з нагоды «правіла Караткевіча» азмрочвае банальная ісціна, паводле якой кожны народ варты свайго кіраўніка.

### «Супервырашала»

На сайце republic.ru я прачытаў выдатны артыкул расійскага эксперта Уладзіміра Кароўкіна «Адрамантуйце нам эканоміку». Прыводжу ключавую цытату: «У сямейных псіхатэрапеўтаў ёсць жаргонны выраз «адрамантуйце нам дзіця». Ён азначае папулярны запыт ад кліентаў: было добрае дзіця — і раптам «зламалася», пачало атрымліваць двойкі, грубіяніць, хлусіць, красці, паліць. Зрабіце яго зноў добрым, адрамантуйце. Дасведчаныя псіхатэрапеўты ненавідзяць такую просьбу. Таму што дзеці самі па сабе не могуць «зламацца». Істотнае змяненне паводзін дзіцяці — прыкмета глыбокіх праблем у сям'і, тут можа дапамагчы выключна сістэмнае лячэнне».

У XXI стагоддзі колькасць «тлустых» гадоў у найноўшай гісторыі Беларусі прыкметна перавысіла колькасць «худых». Для таго, каб у гэтым перакананца, дастаткова зірнуць на гарадскія двары, пад завязку забітыя аўтамабілямі. Але ўжо трэці год запар даходы насельніцтва падаюць, сігналізуючы аб тым, што ў беларускай мадэлі штосьці «зламалася». На аптымізме ўрада негатыўная дынаміка даходаў пакуль ніяк не адбілася, і ў сваіх прагнозах кіраўніцтва працягвае закладваць рост асноўных макраэканамічных паказчыкаў.

Аднак спусцімся з урадавага ўзроўню на ўзровень шараговага жыхара «цудоўнай краіны», на якім вось ужо каторы месяц кіпяць пратэстныя жарсці. «Дэкрэт «аб дармаедах» — хутчэй нагода, чым прычына пратэстаў, — сцвярджае журналіст Анджэй Пачобут. — Асноўныя прычыны — эканоміка і нявер'е значнай часткі грамадства ў здольнасць Лукашэнкі вырашыць іх праблемы, спыніць падзенне ўзроўню жыцця».

У сучасным палітычным навамоўі ўсё большай папулярнасцю карыстаецца слова «вырашала». Першапачаткова яно азначала чалавека з блізкага акружэння суддзі, здольнага за пэўнае ўзнагароджанне забяспечыць «правільны» зыход судовага працэсу.

Як вынікае з цытаты журналіста, многія беларусы ўспрымалі адзінага палітыка (АП) у якасці своеасаблівага «супервырашалы». Такога кшталту памылка масавай свядомасці ў персаналістычных аўтарытарных рэжымах — хутчэй правіла, чым выключэнне. Правілам з'яўляецца і расчараванне ў суперздольнасцях «супервырашалы». Рана ці позна (часцей позна) яно абавязкова надыходзіць.

Тым не менш рэсурс міфа аб тым, што перамога АП на першых прэзідэнцкіх выбарах у 1994 годзе дазволіла «адрамантаваць» беларускую эканоміку, яшчэ не вычарпаны. Але што прыйдзе на змену міфу, які адслужыў свой тэрмін? На змену міфу, як падказвае гісторыя, можа прыйсці толькі іншы міф. І гэта будзе міф пра новага «супервырашалу».

### Хто ж супраць парадку?!

У расколатым беларускім грамадстве ў кожнай яго частцы — свае міфы. Куды ж без іх! Міфы, як тлумачаць культуролагі, дапамагаюць штодзённай свядомасці не толькі апісаць сусвет, але і патрэбныя для абароны ад яго.

Міфы працуюць на спрашчэнне. Інакш яны не могуць быць татальнымі. Таму падтрыманне чорна-белай карціны свету — цэнтральная задача дзяржаўнай прапаганды. Арсенал прапагандысцкіх клішэ, якім яна карыстаецца, традыцыйны для аўтарытарных рэжымаў: «пятая калона», ворагі па знешнім перыметры, неабходнасць адзінства і згуртаванасці вакол самі ведаеце каго.

У прадстаўнікоў «пятай калоны» — свой набор міфаў, і ён увесь час папаўняецца. Ахвочым азнаёміцца з апошнімі напрацоўкамі рэкамендую інтэрв'ю Мікалая Статкевіча ў НЧ. Ужо яго назва («Мы назіраем нараджэнне нацыі») прэтэндуе на сур'ёзны ўнёсак у апазіцыйную міфатворчасць.

На думку Статкевіча, «сённяшнія пратэсты сітуацыю ўжо мяняюць, таму што яны мяняюць само грамадства. Людзі **раптоўна становяцца грамадзянамі** (выдзелена. — С.Н.). Не проста атрымлівальнікамі даброты або непрыемнасцяў ад улады, а менавіта грамадзянамі, якія хочуць вырашаць свой лёс, лёс сваіх дзяцей, лёс сваёй краіны. У пэўнай ступені тое, што цяпер адбываецца, можна назваць рэвалюцыяй унутранай, духоўнай».

Як спецыяліст па азбукавых паліталагічных ісцінах, я павінен удакладніць, што ні аднаго выпадку масавага «раптоўнага» станаўлення грамадзян у гісторыі не зафіксавана. Тое, што ўвесь час прымаецца за рашучую трансфармацыю свядомасці, па факце аказваецца яе (свядомасці) пераходам са стану апатыі ў стан палітычнага ўзбуджэння.

Гарбачоўская перабудова — толькі адзін з прыкладаў такога пераходу. Яна вывела на плошчы мільёны. Яна змяла камуністычны рэжым. Але што паўстала наўзамен? Калі пакінуць за дужкамі краіны Балтыі, дык на месцы непадкантрольнага грамадству Палітбюро ў большасці постсавецкіх рэспублік паўсталі непадкантрольныя прэзідэнты. Дык можа праблема не ў Палітбюро і прэзідэнтах, а ў грамадстве?

Узбуджэнне — з'ява часовая. На змену рэвалюцыям прыходзяць контррэвалюцыі з іх масавым патрабаваннем да ўлады навесці парадак. Працытую Міхаіла Жванецкага: «Так што нам зараз слушна патрабуе парадку. Гэта ў нас у крыві — абавязковасць, пунктуальнасць і гэта... сумленнасць, гэтыя... прыстойнасць і чысціня. Мы жылі сярод парадку ўсе 70 гадоў і не можам адвыкнуць».

Спадзяюся, іронія сатырыка зразумелая. Хто ж супраць парадку?! Але за парадак, на думку «большасці», павінна адказваць не грамадства, а дзяржава. Яна ж у асобе «супервырашалы» павінна несці аднаасобную адказнасць за «зламаную» эканоміку.

### Міф пра Збаўцу

Цяперашнія праблемы са «зламанай» эканомікай у Беларусі (тут я зноў звяртаюся па дапамогу да расійскага эксперта) — прамы вынік дысбалансу ў разуменні грамадствам і дзяржавай узаемных правоў і абавязкаў. У 1994 годзе «большасць» з энтузіязмам абмяняла сваю лаяльнасць да кандыдата ў «супервырашалы» на яго манапольнае права забяспечваць стабільнасць і развіццё эканомікі. Статкевіч расцэньвае гэты абмен як памылку. Але ў чым памыліліся 80% выбаршчыкаў (56% з улікам яўкі) — у персоне або ў крытэрах, паводле якіх яны галасавалі «сэрцам», а не іншай часткай цела?

Гістарычны выбар не здзяйсняецца памылкова. Будучага АП у 1994 годзе падтрымалі тыя, хто ў рынкавых умовах быў не ў стане выжыць — а такіх была большасць.

Цяперашняе расчараванне ў здольнасці «супервырашалы» спыніць падзенне ўзроўню жыцця насельніцтва справакавала акцыі пратэсту, але яно не ў стане змяніць сацыякультурны тып чалавека. Таму вера ў міф пра Збаўцу невыкараняльная.

Нашым далёкім продкам ён з'яўляўся ў рэлігійным уборы. Але мода пераменлівая, і роўна сто гадоў таму чарговаму выратавальніку, перш чым ён залез на бранявік, давялося замяніць рэспектабельны капялюш на кепку (гл. фота «Ленін і група рускіх палітэмігрантаў у Стакгольме па шляху са Швейцарыі ў Расію. 1917 г., 31 сакавіка», на якім будучы правадыр сусветнага пралетарыяту выяўлены ў капялюшы і з парасонам).

Выбаршчыкі шукаюць палітыка, які абяцае вынік на наступны дзень пасля прыходу да ўлады. Кандыдаты ў апазіцыйныя палітыкі занятыя пошукам выбаршчыкаў, здольных «раптам становяцца грамадзянамі». Такая актыўнасць нагадвае лоўлю пакемонаў.

Удача, як ні дзіўна, здольная ўсміхнуцца не толькі выбаршчыкам, але і апазіцыйным палітыкам. Аднак апошнім не варта моцна цешыць сябе. Той, хто раптам стаў грамадзянінам, таксама імкліва можа перастаць ім быць. Пра гэта пераканаўча здолелі б расказаць першыя прэзідэнты Азербайджана і Грузіі — Абульфаз Эльчыбей і Звіяд Гамсахурдзія.

***

Фармат «Азбукі паліталогіі» патрабуе падвесці рысу, і дапаможа мне ў гэтым мой пастаянны «сааўтар», дырэктар Лявада-цэнтра Леў Гудкоў: «Разуменне — гэта таксама дзеянне, прычым больш істотнае, чым удзел у тых ці іншых прамых грамадзянскіх акцыях».

Менавіта ў разуменні больш за ўсё маюць патрэбу сёння палітычныя акторы (ад лац. actor — дзеяч). І не істотна, інтарэсы якой часткі расколатага беларускага грамадства яны ўвасабляюць.



# Нас трымаюць не на ланцугах, а ў бутэльцы

Мікалай ДЗЯДОК

**Калі мы разважаем пра сродкі кантролю аўтарытарнай дзяржавы над грамадствам, што найперш прыходзіць нам на розум? Вядома ж, міліцыянты ў шлемах, гумовыя дручкі, аўтазакі, турмы, спецслужбісты... Магчыма, тэлевізар, прапагандысцкія білборды, праўладныя тролі ў каментах. Але ёсць адзін інструмент, які звычайна ніхто не ўзгадвае, хаця па магутнасці ён не меншы, чым усе пералічаныя вышэй.**

У 2014 годзе міжнародныя рэйтынгі назвалі беларусаў самым пітушчым народам у свеце. У 2016-м наша краіна саступіла першынства Літве, але па-ранейшаму засталася ў топе. Сярэдні беларус, старэйшы за 15 гадоў, спажывае 17,2 літры чыстага спірту на год, што амаль у тры (!) разы больш, чым у сярэднім па планеце. Паводле меркавання Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, незваротная дэградацыя генафонду насельніцтва пачынаецца пасля адзнакі ў 6–8 літраў.

Але хто і як можа вымераць узровень маральнай і інтэлектуальнай дэградацыі?

Спакон веку алкаголь ужываецца ў якасці сродку для пакарэння непакорных. Узгадаем эскімосаў, чукчаў, амерыканскіх індзейцаў. Каланізатары наўмысна спайвалі плямёны, каб тыя гублялі волю да супраціву, станавіліся залежнымі ад бутэлькі і — як следства — ад тых, хто яе ім пастаўляе. Хто першы пачаў выкарыстоўваць гэты сродак для закабалення свайго ўласнага, а не суседніх народаў? Гэта пытанне для гісторыкаў, але відавочна, што ўжо з часоў Савецкага саюза калектыўнае спажыванне алкаголю стала не проста звычаем, і нават не культурным пластом, а амаль нацыянальнай ідэяй. Ад тых часоў і бярэ свой адлік крайне эфектыўнае выкарыстанне алкаголю як інструменту падаўлення несанкцыянаванай грамадскай актыўнасці, і нават несанкцыянаваных думак, якія, да таго ж, прыносяць грошы ў дзяржаўны бюджэт.

## Манаполія дзяржавы

Вы ніколі не задумваліся, чаму амаль усе заводы па вытворчасці напояў з утрымманнем спірту ў Беларусі знаходзяцца ў дзяржаўнай уласнасці? Гэта не выпадковасць, вытворчасць алкаголю — стратэгічная сфера, у якую нельга пускаць абы каго.

Па аналогіі з атрыманнем рэнты ад карысных выкапняў, стабільны, трывалы даход дзяржава атрымлівае ад продажу алкаголю. Чалавек, які купляе бутэльку ў краме, плаціць дзяржаве як мінімум двойчы: спачатку аддаючы свае грошы ААТ ці ЗАТ, уласнікам акцый якога з'яўляецца дзяржава, потым — за акцыз, падатковую надбаўку, зноў жа, у кішэню дзяржавы.

Гэта сфера гарантаванага прыбытку. Гэтаксама як людзі ніколі не перастануць карыстацца электрычнасцю, ездзіць на транспарце, есці хлеб і паліць цыгарэты, яны заўсёды будуць піць. Вытворца гэта разумее, і фактычна алкаголь працягвае заставацца ў Беларусі таварам першай неабходнасці.

## Сацыяльны рэгулятар і кантралёр

Адна з важнейшых функцый алкаголю ў соцыуме — заняцце вольнага часу грамадзян. Амаль трацінну свайго жыцця мы аддаём працы. Яшчэ трацінну — на сон. Тое, што застаецца, можна было б прысвяціць самаразвіццю, адукацыі, творчасці... Але зайдзіце ў любую краму ў пятніцу ўвечары: на касах праз аднаго будуць стаяць людзі з бутэлькамі гарэлкі ці «паўтарашкамі» піва.

Культура нашай краіны сфармаваная такім чынам, што слова «адпачынак», як і словы «кампанія», «тусоўка», нязменна асацыююцца са спажываннем алкаголю. Нельга проста пайсці пагуляць з кампаніяй: трэба ўзяць «па піву». З лепшым сябрам па душах размаўляюць не за кубкам гарбаты, а за чаркай гарэлкі. Нават прагляд фільма ці футбольных матчаў дома для большасці людзей будзе з нязменнай бутэлькай таго ж самага піва.

Спажыванне алкаголю сталася (дакладней, не сталася, а яго зрабілі) сацыяльна прымальнай і нават пажаданай нормай для запаўнення вольнага часу. Выгоды дзяржаўнай сістэмы відавочныя: чалавек менш займаецца асабістым развіццём, менш разважае і рэфлексуе, менш адукоўваецца, ды нават менш чытае, не спрабуе ўдзельнічаць у грамадскім жыцці і нейкіх пазітыўных актыўнасцях, не кажучы ўжо пра пратэстныя акцыі.

«На... ты туда попёрся? Выходной же, сидел бы бухал!» — даводзілася мне чуць ад міліцыянтаў на адрас арыштаваных 25 сакавіка. Самі таго не ведаючы, яны выявілі гэтым выказваннем цэлы пласт дзяржаўнай палітыкі, мэта якой — любым чынам заняць вольны час грамадзяніна, адцягнуўшы яго ад несанкцыянаванай сацыяльнай дзейнасці. Замест яе ён трапляе ў туман, у якім яму няма справы да пытанняў, што хвалююць свядомага грамадзяніна: правоў, свабодаў, сацыяльнай справядлівасці.

Не будзем забывацца, якое ўздзеянне этылавы спірт і яго вытворныя аказваюць на мозг чалавека: этанол — гэта моцны дэпрэсант, які прыгнятае цэнтральную нервовую сістэму. Ён рассейвае ўвагу, зніжае інтэлектуальныя якасці, пазбаўляе мозг здольнасці вырашаць складаныя задачы, спрошчвае мысленне. Не дарма пагромы этнічных, рэлігійных і іншых меншасцяў робяць часцей за ўсе п'яныя натоўпы: п'яны дзейнічае на інстынктах і прымітыўных схемах паводзін, усе культурныя «наслаенні», плады выхавання адыходзяць у яго на другі план.

Узгадаем «франтавыя 100 грамаў» і амаль няспыннае п'янства катаў НКУС і СС падчас Другой сусветнай вайны. Таму, хто расстрэльвае людзей, немагчыма дазволіць рэфлексаваць над тым, што ён робіць.

Чым больш часу чалавек знаходзіцца ў п'яным стане — тым лягчэй ім кіраваць. Ён не задае сабе складаных пытанняў, а на любую фрустрацыю адказвае не пратэстам, а падвышэннем дозы.

Яшчэ адным пабочным вынікам п'янства аказваецца злачыннасць: некаторыя віды злачынстваў, такія, як забойства і хуліганства, больш чым у палове выпадкаў робяцца ў п'яным стане. Па маіх асабістых падліках, ад трацінны да паловы насельніцтва турмаў і лагераў трапілі туды «з-за сінькі».

Запытаецеся, у чым жа тут карысць для дзяржавы? Усё вельмі проста. Уявіце сабе, што гэтыя людзі не выпілі б і не зрабілі б злачынства. Для краіны гэта азначае мінус як мінімум 1\3 усіх зняволеных (каля 15 000) — і, аўтаматычна, скарачэнне многіх карных устаноў (СК, міліцыі, пракуратуры, судоў ды калоній) і тысяч іх супрацоўнікаў, якія вымушаныя будуць перавучвацца на цывільныя прафесіі. Ці трэба гэта ім? Пытанне рытарычнае. Гэта ўжо не кажучы пра больш глыбінныя і важны ўплыў турэмнай сістэмы, яе субкультуры і каштоўнасцяў на грамадства (зэкі з часам вызваляюцца і нясуць засвоенае на волю), які, на маю думку, таксама з'яўляецца часткай сістэмы кантролю і ўсталявання грамадскай іерархіі. Але гэта тэма для асобнага артыкулу.

Канешне, у сітуацыі, што склалася, было б недарэчна вінаваціць адну толькі дзяржаву як бюракратычна-адміністрацыйны апарат. Сам соцыум робіць шмат для рэплікавання такіх паводзін і перадачы іх з пакалення ў пакаленне: напрыклад, праз аліенацыю і маргіналізацыю тых, хто не п'е, асабліва мужчын. На непітушчых глядзяць з непаразуменнем, а часам і з падазронасцю: «Ты што, хворы?», «Ты ў секце, ці што?». Ну і, канешне, сакраментальнае: «Ты мяне паважаеш?» У людзей, што не спажываюць алкаголь, выразна, часам крытычна, звужаецца кола зносін, пакідаючы іх у ізаляцыі пад падазронымі поглядамі. «Не давяраю тым, хто не п'е. Людзі з падвойным дном», — часта даводзілася мне чуць ад знаёмых. Не дзіва, што ў такіх умовах адмова ад спажывання алкаголю патрабуе пэўнай цвёрдасці і гатоўнасці быць незразумелым навакольнымі.

## Дзяржава не выносіць канкурэнцыі

Часта даводзіцца чуць: хай п'е, абы не калоўся! Сумнеўная альтэрнатыва. Алкаголь — як і марыхуана, опій, амфетаміны, спайсы, — дапамагае забыцца пра праблемы сённяшняга дня і хоць на час сысці ў іншы свет, у якім не трэба думаць і несці адказнасць за свае ўчынкі.

Але, у адрозненне ад алкаголю, захоўванне і распаўсюд наркатычных сродкаў жорстка пераследуецца дзяржавай. Але ці задаваліся вы пытаннем, чаму дзяржава з такім імпэтам пераследуе спажыўцоў і распаўсюджвальнікаў наркотыкаў? Хіба з-за таго, што наркотыкі больш шкодныя для здароўя? Анягож! Марыхуана доўгі час прадавалася як лячэбны сродак, макавыя і гераінавыя наркаманы, прытрымліваючыся правілаў гігіены, могуць жыць і калоцца ўсё жыццё і памерці ў старасці (паміраюць яны, уласна кажучы, не ад саміх наркотыкаў, а ад выпадковага передазу альбо ад спадарожных хвароб: ВІЧ і гепатыт).

Можа, ад таго, што п'яны, які «ўкалоўся», больш сацыяльна небяспечны? Статыстыка злачынстваў кажа сама за сябе: злачынствы супраць асобы нашмат часцей здзяйсняюцца п'янымі, чым наркаманамі. Можа, дзяржава турбуецца пра залежных?

У чым жа, у такім выпадку, прычына такой рознай палітыкі ўладаў у дачыненні да наркотыкаў і алкаголю? На мой погляд, адказ тут можа быць толькі адзін: згаданыя вышэй камерцыйная і палітычная карысць. Ад наркагандляроў дзяржава не атрымлівае грошы. Іх не абкладзеш акцызамі і падаткамі, а канкурэнцыю яны складаюць істотную, тым самым змяншаючы прыбыткі тых, у чыіх руках знаходзіцца алкагольная прамысловасць. Адсюль і геройскі-бязлітасная барацьба з наркотыкамі рукамі міліцыі, адсюль і крывадушная тэлепрапаганда супраць нелегальных наркотыкаў, у той час калі легальныя (а алкагольныя напоі — таксама ж наркотыкі) свабодна прадаюцца ў кожнай краме.

З усяго вышэй сказанага можна зрабіць выснову: такія беды нашай краіны, як нізкі адукацыйны ўзровень, цынізм і інтэлектуальная збяднеласць грамадства, адсутнасць пратэстнай культуры, атамізацыя, маюць нашмат больш глыбокія карані, чым гэта часам падаецца. Для кантролю і ўтаймавання грамадства прымяняюцца значна больш тонкія механізмы, чым мы прывыклі думаць. І для таго, каб вызваліцца ад гэтага кантролю, недастаткова проста сімвалічных зменаў: герба, сцяга, дзяржаўнай мовы ці нават прэзідэнта. Змены мусяць быць глыбейшымі і пачынацца з кожнага з нас.



**«На... ты туда попёрся? Выходной же, сидел бы бухал!» — даводзілася мне чуць ад міліцыянтаў на адрас арыштаваных 25 сакавіка. Самі таго не ведаючы, яны выявілі цэлы пласт дзяржаўнай палітыкі, мэта якой — любым чынам заняць вольны час грамадзяніна, адцягнуўшы яго ад несанкцыянаванай сацыяльнай дзейнасці**

# Мары Таццяны Грыневіч

Аляксандр ТАМКОВІЧ

**Размову з Таццянай Грыневіч я вырашыў зрабіць зусім не таму, што яна мая зямлячка. Прычына — у цудоўным выкананні знакамітага «Паланезу» Агінскага, які для альбома «Я нарадзіўся тут» быў зроблены песняй. А калі пачуў расказ пра яе жыццё, зразумеў, што мне пашанцавала, бо так марыць можа толькі вельмі не ардынарная асоба.**


Таццяне Грыневіч — 6 гадоў

## Першыя мары

Зразумела, першыя спевы, якія я пачула, былі матуліны — Алы Іванаўны Грыневіч. Для мяне яны пачалі гучаць у Ашмянах 10 лістапада 1977 года.

Сям'я ў нас вельмі музыкальная. Бабуля Варвара Кузьмінічна Альферовіч грала на балалайцы, дзядуля Іван Іосіфавіч — на скрыпцы. А мама ўвогуле была настаўніцай музычнай школы, выкладала фартэпіяна. Нягледзячы на тое, што мой тата, Іван Ігнатавіч, працаваў у энергетыцы, уся яго сям'я была таксама музыкальнай. Так што гены ў мяне, што ноты, — музыка.

Бацькі пазнаёміліся ў Ашмянах. Тата служыў сувязістам, пасля войска яго часта запрашалі ў Ашмянскі ваенкамат на радыёстанцыю, праз якую ішла сувязь з Гродзенскім ваенкаматам. А мама жыла побач з ваенкаматам, там тата яе заўважыў і неяк на танцах пазнаёміўся. Часам тата залазіў на дрэва, як той Рамэа, каб зазірнуць у акенца і паглядзець, ці дома любімая, — поўная рамантыка, бадай толькі рамансы пад акном не спяваў.

Неўзабаве яны пабраліся шлюбам, пайшлі дзеткі. Нас у сям'і трое, я сярэдняя. Старэйшага брата завуць Васіль, малодшага — Юрась. Абодва зараз у Піцеры, прадпрымальнікі. Ужо ў два гады я бегала па хаце і нешта высокім голасам пішчала. Мой дзядзька, выкладчык Гродзенскай музычнай вучэльні Алег Іванавіч Альферовіч, пачуў гэта і заўважыў: «Будзе мая пляменніца опернай спявачкай». Жарт жартам, але праз шмат гадоў гэтыя словы быццам бы матэрыялізаваліся ў маё раптоўнае жаданне стаць менавіта спявачкай. Было гэта пасля другога курсу Маладзечанскай музычнай вучэльні.

У Ашмянах я вучылася ў другой сярэдняй школе. Два першых класы ў старым будынку, астатнія — у новым. Паралельна было восем гадоў вучобы ў музычнай школе, дзе я зразумела: музыка — гэта маё.

Менавіта ў музычнай школе я пазнаёмілася з дзецьмі, якія потым хадзілі ў мясцовы Дом піянераў «на гітару». Шмат разоў складала ім кампанію. І падглядзела тыя акорды, якія потым станугь базай для майго гітарнага досведу, бо значную частку сваіх песняў я выконваю якраз з гэтым інструментам.

Некалькі гадоў таму я прыехала з выступам у родную школу, і мяне сустрэла настаўніца беларускай мовы — мая аднакласніца! Яна павіталася і расказала, што яе папярэдзілі: «З Мінску прыедзе нейкая спявачка, родам з Ашмян. Ніколі б не падумала, што гэта будзеш ты...» Аказваецца, за адным са зробленых мной для школы дыскаў яна спецыяльна ездзіла ў Мінск. Яна яго знайшла і набыла, аднак не магла нават уявіць, што Таццяна Грыневіч — яе былая аднакласніца...

З дзіцячых успамінаў засталася дарожка да любімай рэчкі Ашмянкі, якая працякае побач з бацькоўскай хатай, і горка ля ваенкамата, з якой зімой мы каталіся на санках. Побач быў яшчэ стадыён, дзе часта гулялі ў футбол, але зараз яго забудавалі...

Пасля базавай 9-класнай адукацыі я паступіла на дырыжора ў Маладзечанскую музвучэльню. Там пасля другога курса і стрэліла думка наконт опернай сцэны. Вучыцца трэба было чатыры гады, таму, калі набліжаўся фініш, я падышла да настаўніка па вакалу і расказала пра сваю мару. Маўляў, у кансерваторыю праслухалася, але яны мяне не бяруць. Настаўнік параіў пайсці ў Акадэмію мастацтваў, дзе ёсць набор на спецыяльнасць «акцёр музычнага тэатра». Па сутнасці, аперэта вельмі блізкая да класічнай оперы.

## Першыя іспыты

Я ехала на ўступны экзамен з неверагоднай упэўненасцю ў сваім поспеху і атрымала... «двойку» ад прымы айчыннай аперэты Наталлі Гайды. Праз гады Наталля Віктараўна ацаніла мой голас, але ўжо не памятала, што некалі паставіла адмоўную адзнаку.

Вярнулася я тады да настаўніка па вакалу ледзь не ў слязах. Спыталася, што рабіць далей? Пётр Пятровіч Туронак сказаў: «Калі тут праблемы, паступай у Інстытут культуры на харавое аддзяленне. Там ёсць настаўнік вакалу, які табе зробіць правільнае дыханне». Як вядома, гэта аснова для добрага спявання. Прозвішча ён не мог згадаць.

Я такі чалавек, што калі чаго-небудзь хачу, то абавязкова дасягну. Літаральна ў першы дзень вучобы знайшла гэтага настаўніка (ім аказаўся Віталь Вісарыёнавіч Пакідчанка), і ў яго кабінеце амаль безапеляцыйна сказала яму: «Я буду ў вас вучыцца. І стану опернай спявачкай!» Уяўляю, як ён тады разгубіўся, але папрасіў мяне заспяваць. Пачуўшы, схапіўся за галаву і кажа: «Нават не ведаю, чым дапамагчы. Прыходзь на заняткі, будзем разбірацца...»

Яго заняткі я наведвала амаль фанатычна — па пяць разоў на тыдзень. Спявала сама, слухала іншых. І так усе дні, калі ён працаваў, але, нягледзячы на гэта, маё развіццё ў спевах ішло надзвычай марудна.

Мой будучы муж вучыўся на іншым факультэце, і сярод яго выкладчыкаў быў Вячаслаў Антонавіч Ракіцкі, які стала працуе на «Радыё Свабода». Студэнты з захапленнем расказвалі пра яго лекцыі. Адзін раз схадзіла і я. І таксама захапілася. Ён чытаў свае лекцыі, як і некаторыя іншыя, на беларускай мове, але менавіта ў яго адчувалася незвычайная шчырасць, да таго ж мяккая тарашкевіца дадавала такой прыгажосці, што мне самой захацелася вывучыць беларускую мову.

На бліжэйшыя вакацыі ўзяла з сабой у Ашмяны «Каласы пад сярпом тваім» Уладзіміра Караткевіча, беларуска-рускі слоўнічак і вывучыла беларускую мову. З таго моманту ўва мне быццам бы прачнуўся ген жадання ведаў (у звычайнай школе гэтага не было). Я быццам бы праглынала новую інфармацыю.

Дыпломную работу напісала на беларускай мове і на ёй жа вырашыла абараняцца. Большасць успрыняла гэта нармальна, але некаторыя казалі: «Навошта табе гэта трэба?». Ішоў 2001 год, а не пачатак 90-х, калі ідэі нацыянальнага адраджэння віравалі ў грамадстве.

У 2000 годзе мы пабраліся шлюбам з Алесем Матафонавым і нарадзіўся Адась. Так што разам з дыпломам я атрымала яшчэ і гадавалага сына.

Менавіта з сынам звязаныя вельмі значныя падзеі ў маім жыцці. Я размаўляла з ім толькі па-беларуску, таму цалкам лагічна, што і дзіцячы садок быў абраны беларускамоўны, напэўна, тады адзіны ў Мінску. Дакладней, гэта была беларускамоўная група дзяцей розных узростаў. Месціцца садок каля вядомай цацачнай крамы «Матрошка». З Зялёнага Лугу, дзе мы тады жылі, кожны дзень дабіраліся каля гадзіны — у адзін бок. У гэты ж садок вадзілі сваіх дзетак Лявон Вольскі, Вінцук Вячорка, Алесь Міхалевіч, Зміцер Сідаровіч. Пасябравалі і дзеці, і дарослыя.

Са Зміцерам Сідаровічам мы непасрэдна пазнаёміліся ў наступным годзе, калі нашы дзеці (яго Тамаш і мой Адась) разам хадзілі ў цэнтр народнай творчасці на вуліцы Кірава. Вельмі цікавымі былі заняткі па саломцы, якія праводзіла Валянціна Лойка, Адась яе так і называў — «спадарыня Саломка». Там жа дзеці наведвалі і музычныя заняткі.

Аднойчы мы са Зміцерам чакалі сваіх хлопцаў, разгаварыліся і вырашылі ў будучым зрабіць нешта разам. У 2005-м прыйшла ідэя «Дзіцячага альбома»: было разуменне, што для дзяцей няма беларускамоўнага матэрыялу, што ўсе мы выраслі на песнях з савецкіх мультфільмаў. Натуральна, усе яны рускія. Мы вырашылі стварыць нешта сваё, беларускае. Нам вельмі дапамагла кніга «Дзіцячы фальклор», адтуль мы ўзялі і апрацавалі 27 песень. Спачатку думалі, што спяваць будзем самі, а потым аддалі прыярытэт дзецям. Гэта была першая сумесная праца. Потым запісалі «Дзіцячы альбом. Частка другая», куды ўвайшлі калядныя і школьныя песні.

## Пошукі мары

Аднак вернемся да маёй мары стаць опернай спявачкай.

Размеркавання ў мяне не было, бо я адразу трапіла ў дэкрэтны адпачынак. Час ад часу хадзіла да свайго настаўніка па вакалу, потым амаль выпадкова даведалася, што ў нашым універсітэце па маім профілі можна атрымаць дадатковую адукацыю.

Першапачаткова ў дэканаце мне сказалі, што за год навучання стаць дыпламаванай опернай спявачкай немагчыма, і яны мне замест дыплома выпішуць даведку, што я вучылася оперным спевам. Выбару не было, я пагадзілася. Тата аплаціў вучобу, пачаліся заняткі. Ставілася да іх надзвычай адказна. Асабліва да тых, якія не былі ідэалагічнымі.

Прадстаўніцы дэканату прысутнічалі на экзаменах і чулі, як я спяваю, і ўрэшце выдалі не выпіску пра тое, што вучылася, а рэальны дыплом з кваліфікацыяй: «спявак оперны — канцэртны». Аказалася, дзеля мяне жанчыны хадзілі ў Міністэрства адукацыі, і ім «в порядке исклю-



чения» дазволілі выдаць «диплом установленного образца».

Жаданы дыплом нічога, акрамя маральнага задавальнення не даваў. На шчасце, адна са знаёмых сказала, што ў яе школе ёсць стаўка акампаніятара танцаў. Заробак невялікі, але гэта было выйсцем. Тым больш, што адпаведны досвед быў — яшчэ падчас вучобы я выкладала ў розных школах.

У якасці акампаніятара прапрацавала некалькі гадоў. Гэта даволі цікава. Я глядзела, як дзетак вучаць танчыць, а калі гэта было магчымым, падыходзіла да станка сама і паўтарала іх практыкаванні. Самастойна займалася і вакалам. Потым два месяцы спявала ў хоры «Санорус» пад кіраўніцтвам Аляксея Шута, і нарэшце мяне прынялі ў Дзяржаўны камерны хор Беларускай філармоніі, дзе прапрацавала 12 гадоў.

Не скажу, што там было ўсё без праблем. Магчыма, мой голас не адпавядаў іх узроўню, а магчыма, недарэчнасці адбываліся таму, што мая індывідуальнасць заўжды была наперадзе, хор жа — гэта калектыў са сваімі патрабаваннямі, дзе трыццаць чалавек павінны быць адным арганізмам, і сярод яго — «маленькая атамная станцыя», як часам пра мяне жартаваў Валер Мазынскі.

## Мара беларушчыны

Пад канец 2008-га ў мяне з'явілася скрыпка, якая цудоўна спалучалася з дудой Зміцера Сідаровіча. Ён сказаў: «Будзеш маёй скрыпачкай». Бедныя мае родныя і суседзі...

Музычная адукацыя дазваляла засвоіць новы інструмент самастойна, і даводзілася займацца па некалькі гадзін на дзень. Ужо праз два месяцы мы дэбютавалі ў Мінскім Палацы моладзі, яшчэ праз паўгода кавярня «Жар-птушка» прапанавала папрацаваць у іх: дырэктарка захацела, каб у кавярні адбываліся народныя танцы.

Зміцер сабраў гурт: да нас далучыліся гарманіст Аляксей Крукоўскі ды Ігар Доўгі — барабан. Кожны чацвер у кавярні адбываліся адпаведныя вечарыны, што для мяне асабіста азначала трохгадзіннае практыкаванне на скрыпцы.

Дарэчы, і зараз адбываюцца такія ж танцы летам на вуліцы недалёка Ратушы, а ўзімку — у розных закрытых памяшканнях. Цяпер наш гурт называецца капэла «На таку», але разам з танцорамі мы аб'ядналіся ў клуб, які мае назву «Сіта».

У 2009 годзе нас са Зміцерам запрасілі ў Нью-Ёрк. Аб'яднанне амерыканскіх беларусаў святкавала 60 гадоў сваёй дзейнасці і на імпрэзе з гэтай нагоды хацела бачыць народныя танцы. У Нью-Ёрку адбылося вельмі важнае для мяне знаёмства з Сержуком Сокалавым-Воюшам. Хутка ў нас адбыўся творчы саюз, які матэрыялізаваўся ў цэлы шэраг сумесных праектаў. У прыватнасці, у дыск «Паспеўкі», у якім яго пераклады і аўтарскія тэксты спявала я і мой сын, а напрыканцы тры песні выканаў сам Сяржук. Словам, паспявалі. Таму і «Паспеўкі».

Творчыя кантакты з Сержуком яшчэ больш зрабілі мяне беларускай. Калі раней у розных сітуацыях я яшчэ магла перайсці на рускую мову, то цяпер яна амаль цалкам пайшла з майго жыцця. Размаўляю толькі па-беларуску.

У той жа час вядомы паэт Міхась Скобла прапанаваў падарожнічаць разам па школах у межах культурніцкай кампаніі «Будзьма беларусамі». Маўляў, ён чытае вершы, я — спяваю. За гэтыя гады творчым дуэтам мы аб'ездзілі безліч школаў.

Мабыць, усё папярэдняе было толькі добрай прыступкай да асабістага шляху ў беларускім творчым жыцці, бо потым праекты пайшлі адзін за адным. У 2011 годзе выйшаў мой альбом «Шыпшына». Музычны крытык Вітаўт Мартыненка даўно раіў мне запісаць альбом беларускіх рамансаў — і ён урэшце з'явіўся.



З Пласіда Дамінга



З гуртом Зміцера Сідаровіча

Пасля адной з вечарын прагучала думка, што няма нічога для дзяцей музычна-навагодняга па-беларуску. Спачатку я ад гэтай ідэі адхрысцілася, а калі да свята заставаўся месяц, я адчула: трэба зрабіць.

Без сяброў за такі кароткі тэрмін нічога зрабіць немажліва. Дзякуй Вользе Кашэвіч, якая цудоўна грае на фартэпіяна і заўжды адгукаецца на самыя нечаканыя творчыя ідэі. Дзякуй гукарэжысёру Валеру Бяляеву, які нястомна робіць працу за працай, і нашы дыскі растуць, як грыбы. Дзякуй сыну Адасю, які за тыдзень змог вывучыць усе песні, і Лоры Арловай за цудоўнейшую вокладку.

Шчыра кажучы, тады ўсім давялося паднапрагчыся. Нават Юрась Жыгамонт начытаў навагодніх вершаў у студыі, каб песні чаргаваліся вершамі. Так узнік дыск «З Новым годам».

З вершамі звязаны і своеасаблівы працяг той працы. Аднойчы перад выступам высветлілася, што Адась (мы выступаем разам) не вывучыў верш, які яму загадалі вывучыць у школе. Часу, каб гэта зрабіць, не было, і я запісала тэкст верша на дыктафон. Ён шмат разоў яго праслухаў, натуральна, нешта запомніў. Гэта выратавала дзіця ад дрэннай адзнакі.

Праз пэўны час я выпадкова знайшла той запіс — і раптам нарадзілася думка зрабіць дыск з вершаў, якія ў школе задаюць вывучыць на памяць. Ідэя вельмі спадабалася, і мы прыступілі да яе рэалізацыі. Школьныя вершы чыталі вядомыя ў краіне людзі: заслужаная артыстка Беларусі Зінаіда Бандарэнка, паэты Генадзь Бураўкін і Анатоль Вярцінскі, публіцыст Сяргей Дубавец і шмат хто іншы. А спявак Лявон Вольскі прачытаў два вершы свайго бацькі Артура Вольскага.

На гэты раз ужо вершы разбаўляліся песнямі, тэксты якіх таксама вучацца на памяць. Напрыклад, «Мой родны кут» Якуба Коласа альбо «Зорка Венера» Максіма Багдановіча. Атрымаўся падвойны дыск «Няма прыгажэй ад маёй Беларусі».

Цяпер настаўнікі дзякуюць за тое, што Адась некалі не вывучыў верш: у выніку мы зрабілі вельмі патрэбную для беларусаў справу.

Наступны паэтычны дыск таксама прыйшоўся настаўнікам даспадобы. У школьнай праграме шмат вершаў, якія не вучацца, але выразна чытаюцца. Гэтыя вершы і сталіся асновай дыска, яшчэ дадаліся вершы, якія зніклі са школьнай праграмы за апошнія гады. Дыск называецца «Сотня вершаў».

А тое, што многія вершы на дыску чытаюць аўтары, стала падказкай для стварэння наступнай кружэлкі — «Галасы паэтаў».



З сынам Адасем і Генадзем Бураўкіным

Гэты праект быў пашыраны, бо акрамя паэтаў сучасных на дыску змешчаны архіўныя запісы галасоў Коласа, Купалы, Куляшова, Вялюгіна, Караткевіча, Панчанкі, Танка, запісы Ларысы Геніюш, Таццяны Сапач, Ніны Мацяш. Агулам шэсцьдзясят галасоў творцаў.

Калі нехта думае, што гэтыя дыскі прыносяць камерцыйны прыбытак, ён моцна памыляецца. Грошы на іх я адкладала са свайго мізэрнага заробку. Сёння крыху дапамагаюць спонсары, але іх дапамога не заўжды пакрывае нават выдаткі.

## Услед за марай

Нейкі час я выступала разам з Юркам Габрусем, які прыйшоў у наш хор арганістам і добра спяваў тэнарам. Мой Адась у гэты час дарос ужо да баса, плюс маё сапрана, плюс альт пляменніцы Надзеі Міцэвіч... Заснавалі ансамбль — і гэтым складам давалі канцэрты ў касцёлах, у іншых месцах, але аднойчы на творчай глебе мы паспрачаліся з Юркам: ён сказаў, што мне нестае прафесіяналізму. Дзякуй яму за гэта, бо гэта быў голас з нябёсаў пра тое, што забылася на сваю мару.

Паставілася да гэтага надзвычай сур'ёзна, сабрала кансіліум сваіх дзядзькаў. Алег Іванавіч і Валеры Іванавіч — прафесійныя музыкі — заўжды былі побач, калі патрэбна была парада. Менавіта з таго моманту я аднавіла сур'ёзныя заняткі па вакалу — праз два месяцы наш хор павінен быў спяваць оперу «Паяцы». Я даследавала ўсю інфармацыю пра гэтую оперу, праслухала ўсё, што ёсць у інтэрнэце. З усіх варыянтаў мне найбольш спадабаўся тэнар вялікага Пласіда Дамінга.

Падчас першай рэпетыцыі з аркестрам хор выканаў свае партыі, і нам прапанавалі або заняцца сваімі справамі, альбо пасядзець у зале, паслухаць італьянскага выканаўцу. Я, канешне ж, абрала другое. Так упершыню ў жыцці пачула жывую тэнара сусветнага ўзроўню — Франчэска Аніле. Напэўна, Франчэска заўважыў маю цікаўнасць да яго выканання, бо калі на наступны дзень я папрасіла (не ведаючы ні італьянскай, ні англійскай мовы), даць мне ўрокі вакалу, ён пагадзіўся.

Калі некаторыя прадстаўнікі творчай беларускай эліты даведаліся, што я збіраюся вучыцца, яны не разумелі сэнсу. Маўляў, з маім узроўнем трэба не вучыцца, а вучыць. Канешне, гэта падняло самаацэнку, але на першым жа майстар-класе Франчэска астудзіў гэтую пахвальбу, і я зразумела, што гэта толькі пачатак — наперадзе шмат працы.

Нечакана мне зноў пашчасціла. Пры чарговым наведванні Нью-Ёрку па запрашэнні амерыканскіх беларусаў высветлілася, што ў знакамітай «Метраполітэн-опера» ў той жа час выступаюць італьянскія спевакі. З дапамогай Франчэска Аніле я патрапіла туды і пазнаёмілася з самім Пласіда Дамінга... Мары спраўджваюцца!

Але самая вялікая мара яшчэ застаецца, яна лейтматывам праходзіць праз усё маё жыццё, не даючы прыпыніцца, адчыняе ўсё новыя і новыя прасторы. Оперныя спевы. Спевы, у якіх працуюць творцы найвышэйшага прафесійнага гатунку. Таму заняткі вакалам і самаўдасканальванне працягваюцца і будуць працягвацца ўсё жыццё. (Зараз дзеля гэтага асвойваю новы для мяне інструмент — трубу, якая лепей дапаможа разабрацца з асновамі дыхання).

З Алесем Матафонавым мы, па маладосці, па неабачлівасці, разышліся. Адасю было толькі тры гады. Я заставалася па-ранейшаму Матафонавай, не хацела розных з сынам прозвішчаў. Карыстацца ж дзявочым стала дзякуючы парадзе Сержука Сокалава-Воюша. Ён заўважыў: «Грыневіч гучыць больш па-беларуску».

Аляксандр Тамковіч распачаў на www.talaka.by збор сродкаў, каб кніга «Мазаіка жыцця», праца над якой доўжылася больш за 5 гадоў, пабачыла свет.

Сярод герояў кнігі ў тым ліку будзе і Таццяна Грыневіч, а таксама Алена Анісім, Зміцер Вайцюшкевіч, Кася і Алесь Камоцкія, Генік Лойка, Наталля Гардзіенка, Алесь Пушкін, Барыс Пятровіч, Віктар Марціновіч, Андрэй Хадановіч... І шмат хто яшчэ.

«Зразумела, змясціць усіх у адной кнізе вельмі складана, таму — «Мазаіка жыцця» — пачатак новага біяграфічнага праекта, і я ўпэўнены — з Божай дапамогай мы створым гэтую энцыклапедыю сучаснасці», — кажа Аляксандр Тамковіч.

Газетныя варыянты нарысаў друкаваліся (і друкуюцца) у «Новым Часе». «Мазаіка жыцця» будзе надрукаваная літаральна праз некалькі тыдняў пасля атрымання неабходнай сумы.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ГРУЗІЯ. Анексаваныя тэрыторыі здадуць?

Напярэдадні правядзення ў Тбілісі вясновай сесіі Парламенцкай асамблеі NATO мясцовае выданне «Грузинформ» падзялілася сенсацыяй: Захад актыўна прымушае Тбілісі хутчэй прызнаць Абхазію і Паўднёвую Асецію, каб прыняць Грузію ў NATO. Паводле інфармацыі «Грузинформ», за ініцыятывай стаяць улады вядучых краін Еўропы, у прыватнасці Германіі і Вялікабрытаніі. «Грузинформ» лічыць, што на Захадзе занепакоеныя трэндам у рэгіёне. Апошнім часам эліты Турцыі і Азербайджана пачалі дрэйфаваць ад Еўропы. Калі тэндэнцыя захаваецца, геапалітычны вектар, маўляў, можа змяніць і Грузія — на цяперашні час апошні стратэгічны фарпост Захаду ў рэгіёне. Сяброўства ў NATO можа быць перастрахоўкай ад змены курсу, аднак, паводле статуту Арганізацыі Паўночнаатлантычнай дамовы, без дэлімітацыі мяжы дзяржавы быць яе сябрам немагчыма.

**Паводле грузінскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Пайсці беларускім шляхам

Дырэктарат Казахстану падтрымаў ідэю дачкі кіраўніка дзяржавы Дарыгі Назарбаевай, якая ўвесну звярнула ўвагу на тое, што ў краіне хапае людзей, якія не плацяць падаткаў. Дарыга нават абвінавaціла тых у прагнасці, заявіўшы, што «трэба мець сумленне і дзяліцца». Цяпер яе ініцыятыву падтрымала група буйных дырэктараў. Падчас канферэнцыі, што адбылася днямі, прагучалі ідэі пра неабходнасць зніжэння падаткі на буйных прадпрыемствах за кошт увядзення падаткаў на так званых «самазанятых». Пад закон пра «дармаедаў» павінны трапіць тры мільёны чалавек, у тым ліку і хатнія гаспадыні. Ведаючы, чым скончылася спроба ўвесці дармаедскі падатак у Беларусі, рэалізацыя падобнай ініцыятывы ў Казахстане выглядае маларэальнай. Акрамя актывізацыі палітычнага пратэсту, такі падатак будзе азначаць зніжэнне пакупніцкай здольнасці і так беднай часткі насельніцтва, якая складае больш за 80% ад усяго казахскага грамадства. Дэбаты наконт падаткаў на дармаедаў, хутчэй, — індыкатар крызісу сярэдняга бізнесу, які праз крызіс ужо не здольны папаўняць бюджэт.

**Паводле казахскай прэсы**

### ПОЛЬШЧА. Ці атакавала танкі кавалерыя?




У амерыканска-польскіх адносінах незвычайны скандал. Узнік ён, падаецца, на абсалютна голым месцы. Аглядальнік праграмы «Mad Money», якую транслюе адзін з амерыканскіх каналаў, параўнаў палітыку менеджменту ў адной з гандлёвых сетак ЗША з атакай польскай кавалерыі на нямецкія танкі. У Варшаве такі каментар успрынялі як абразу. Легенду пра тое, што польская кавалерыя ў 1939 годзе кідалася з шаблямі на танкі Вермахту, цяперашні польскі ўрад лічыць антыпольскім міфам. На думку польскага пасольства ў ЗША, той міф запусціў Гебельс, каб падарваць дух палякаў. Пасля вайны пра кавалерыйскія атакі на танкі ахвотна казала камуністычная прапаганда, каб падкрэсліць слабасць буржуазнай Польшчы. Цікава, што да стварэння таго міфу далучыўся і славуты рэжысёр Анджэй Вайда, які зняў адпаведны эпізод у адным са сваіх фільмаў. На думку польскіх дыпламатаў, вядучы «Mad Money» настолькі абразіў палякаў, што павінен публічна папрасіць прабачэння. Між тым, гісторыкі прызнаюць, што сутыкненне польскіх уланаў з танкамі Вермахту ў верасні 1939-га сапраўды мела месца. Праўда, ніякай атакі з шаблямі на танкі не было. Папросту вершнікі выпадкова трапілі пад агонь нямецкай тэхнікі.

**Паводле польскай прэсы**

### УКРАІНА. Перайменаваць дзяржаву

Украінская грамадскасць не на жарт абурылася тэзісам, які Уладзімір Пуцін агучыў падчас нядаўняга візіту ў Парыж. У сваім выступе ён згадаў пра «рускую княгіню Ганну». Ганна — дачка кіеўскага князя Яраслава Мудрага, якую той аддаў за жонку французскаму каралю Генрыху Першаму. У Кіеве пасаж пра «рускую княгіню» быў успрыняты як замах на канцэпцыю ўкраінскай гісторыі, паводле якой Кіеўская Русь — папярэднік Украіны, а не Расійскай Федэрацыі. Супраць пуцінскай версіі гісторыі выступаюць на самым высокім афіцыйным узроўні — аж да спікераў парламенту і прадстаўнікоў Адміністрацыі прэзідэнта. Найбольш незвычайны крок у барацьбе за ўкраінскасць Ганны зрабіла Украінская праваслаўная царква Кіеўскага Патрыярхату, якая абвясціла пра пачатак кананізацыі княгіні. Тое, што барацьба за ўкраінскае паходжанне княгіні Ганны набыла такі маштаб, выклікала ў прэсе цікавыя спекуляцыі. Ёсць думка, што бліжэйшым часам кіеўская ўлада вернецца да старой ідэі перайменавання Украіны. Сярод часткі грамадства даўно папулярная ідэя называць дзяржаву «Украіна-Русь».

**Паводле ўкраінскай прэсы**



Фота www.rusvesna.su

# Калі б не было Бжэзінскага

**На 90-м годзе жыцця 26 мая памёр Збігнеў Бжэзінскі — мэтр амерыканскай палітычнай думкі. З улікам яго вялікага ўплыву на знешнепалітычны курс Вашынгтона, можна смела казаць, што без Бжэзінскага свет быў бы іншым.**

*Алег НОВІКАЎ*

Бжэзінскі быў дарадцам па «саветалогіі» і геапалітыцы ў адміністрацыях амерыканскіх прэзідэнтаў ад Кенэдзі аж да Клінтана. Зеніту свайго ўплыву ён дасягнуў у якасці дарадцы па нацбяспецы пры Картэры на мяжы 1970–1980-х гадоў. Менавіта тады «Ваяўнічы Збіг», як яго называлі, вырашыў арганізаваць СССР «сваю в'етнамскую вайну» ў Афганістане.

Вакол гэтага рашэння Белага дома дасюль цягнуцца спрэчкі. Справа ў тым, што Бжэзінскі вырашыў не арыентавацца на афганцаў — прыхільнікаў канстытуцыйнай манархіі, якую напярэдадні зрынулі прасавецкія палітычныя сілы. Стаўка была зробленая на ісламістаў, якім была адкрытая лінія фінансавай і вайсковай падтрымкі. У выніку «абмежаваны кантынгент» Савецкай арміі з Афганістану сышоў, аднак адначасова тут паўстаў інкубатар ісламскага фундаменталізму, прыхільнікі якога дасюль не даюць пра сябе забыцца.

Узнікае пытанне: можа, спонсарства маджахедаў было фатальнай памылкай? Тым больш, што сярод гісторыкаў усё больш папулярная ідэя пра непазбежнасць калапсу Савецкага Саюза і без афганскай авантуры. «На жаль, дзякуючы Бжэзінскаму мы яшчэ і сёння змагаемся з мусульманамі, якіх ён абудзіў», — іранізуе адно з амерыканскіх выданняў.

Сам Бжэзінскі лічыў, што яго рашэнне наконт падтрымкі ісламістаў было цалкам слушным. «Пра што я павінен шкадаваць? Гэтая таемная аперацыя (падтрымка ісламскіх фундаменталістаў у Афганістане. — аўт.) была выдатнай ідэяй. У выніку рускія патрапілі ў афганскую пастку, а вы хочаце, каб я пра гэта шкадаваў? Што важней для сусветнай гісторыі? Талібан ці крах савецкай імперыі?» — казаў «рыцар халоднай вайны».

Праўда, сцэнар гісторыі без Бжэзінскага, які малююць аматары альтэрнатыўнай гісторыі, выглядае трошкі ўтапічным. Відавочна, што ігнаруюцца эканамічныя і палітычныя супярэчнасці, якія так ці інакш паўсталі падчас глабалізацыі. Магчыма, свет не ведаў бы такой ступені пагрозы з боку ісламскага тэрарызму, аднак з'явіліся б новыя выклікі. Ёсць і іншыя ўтопіі. Напрыклад, расійскія ўрапатрыёты лічаць, што без Бжэзінскага з яго душманамі Савецкі Саюз мог утрымацца ў Афганістане і пачаць рыхтаваць марш-брасок да Індыйскага акіяну.

Падтрымка маджахедаў — далёка не адзіны папрок на адрас нябожчыка, які можна прачытаць у прэсе. Узгадалі, напрыклад, і як Бжэзінскі заплюшчваў вочы на падтрымку Пекінам крывавага рэжыму Пол Пота ў Камбоджы. Бжэзінскі спадзяваўся на тое, што Пекін не дапусціць у краіну прамаскоўскіх в'етнамцаў. У выніку чырвоныя кхмеры забілі некалькі мільёнаў суайчыннікаў і далі В'етнаму маральнае апраўданне для інтэрвенцыі ў Камбоджу.

У Ізраілі Бжэзінскага называюць архітэктарам ізраільскага адступлення з Сінайскага паўвострава і наступнай перадачы яго пад кантроль Егіпту ў межах Кэмп-Дэвідскіх пагадненняў. У выніку сённяшні Сінай — адзін з плацдармаў сусветнага джыхаду.

Узгадваюць і Іран. Калі пачаліся першыя пратэсты супраць шаха Махамеда Рэзы Пехлеві, інструкцыі Бжэзінскага дэмаралізавалі іранскіх сілавікоў, і яны не прадухілілі рэвалюцыю, у выніку якой да ўлады прыйшоў аятала Хамейні. Падчас рэвалюцыі Белы Дом не здолеў публічна асудзіць былога саюзніка, каб узняць уплыў памяркоўнай антышахскай апазіцыі.

З імем Бжэзінскага звязваюць і няўдалую спробу спецназу ў красавіку 1980-га вызваліць амерыканскіх дыпламатаў-закладнікаў у пасольстве ў Тэгеране. Паводле сведкаў, ён баяўся, што асцярожная палітыка санкцый адносна Ірану па пытанні закладнікаў прымусіць аяталу Хамейні гуляць па правілах міжнароднай дыпламатыі і паступова стаць сатэлітам Масквы. Затое бліскучая аперацыя спецназаўцаў, маўляў, стане для амерыканцаў тэрапіяй ад в'етнамскага сіндрому. Аперацыя скончылася правалам: вайскоўцы не ўлічылі пясчаныя буры, непазбежныя паломкі тэхнікі і памылковыя дадзеныя разведкі. У выніку загінулі некалькі амерыканскіх жаўнераў, у пустыні кінулі ўсе верталёты, целы загінулых пілотаў і іншых чальцоў экіпажаў, усю сакрэтную дакументацыю па правядзенні аперацыі і кнігі радыёкодаў. І гэта яшчэ на першым этапе аперацыі!

Адным словам, са спадчынай Бжэзінскага свет будзе разграбацца яшчэ доўга. У тым ліку, і ў нашым рэгіёне. Падчас прэзідэнцтва Клінтана Бжэзінскі быў аўтарам стратэгіі пашырэння NATO на Усход. Пры гэтым вельмі важнае месца ў яго новай дактрыне займала Украіна. Бжэзінскі пісаў, што без Украіны аднаўленне Расійскай імперыі немагчымае. На думку некаторых, такая бескампрамісная ўстаноўка запусціла ў мазгі палітыкаў канцэптуальны вірус, што з часам ператварыла нашу краіну-суседку ў арэну бязлітаснай геапалітычнай бойкі.

**Сам Бжэзінскі лічыў, што яго рашэнне наконт падтрымкі ісламістаў было цалкам слушным: «Пра што я павінен шкадаваць? Гэта таемная аперацыя была выдатнай ідэяй. Што важней для сусветнай гісторыі? Талібан ці крах савецкай імперыі?»**

Дарэчы, за тое, што Бжэзінскі папярэдзіў Маскву пра накірунак новага ўдару Захаду, там яму гатовы прабачыць нават Афганістан. «Ён (Бжэзінскі) паспеў убачыць пачатак заняпаду створанай яго намаганнямі глабальнай імперыі. Ён паспеў папярэдзіць амерыканскую эліту, што старыя шаблоны больш не дзейнічаюць — трэба шукаць новыя шляхі да перамогі. Яго не пачулі. Дзякуючы гэтаму мы атрымалі на дзесяць гадоў больш часу, чым было б у нас, калі б амерыканскай знешняй палітыкай кіраваў Бжэзінскі», — пішуць у некралогу на яго смерць РІА «Новости».

Сыход Бжэзінскага — гэта, безумоўна, сімвалічны крок ад часоў "халоднай вайны", дзе існавалі нейкія правілы і рамкі паводзінаў, у накірунку незразумелага.

# Як будуць піць літоўцы?

Алег НОВІКАЎ

**Напрыканцы мая Сейм Літвы прыняў папраўкі да закона, якія павінны жорстка абмежаваць спажыванне алкаголю.**

Літаральна напярэдадні разгляду законапраекта ў яго аўтараў з'явіўся моцны аргумент. Сусветная арганізацыя аховы здароўя назвала Літву самой пітушчай краінай у свеце. Па выніках мінулага года кожны жыхар рэспублікі выпіў у сярэднім 16 літраў чыстага алкаголю, што з'яўляецца абсалютным сусветным рэкордам. Акрамя таго, краіна трапіла ў дзясятку дзяржаў, дзе фіксуецца больш за ўсё выпадкаў ракавых захворванняў, звязаных з ужываннем алкаголю.

«У краіне, якая лідзіруе ў свеце па спажыванні алкаголю, неабходна распачаць неадкладныя дзеянні. Гэта пытанне не палітыкі, а якасці жыцця нашых людзей», — заявіў кіраўнік урадавай партыі «Зялёныя — Сяляне» Рамунас Карбаўскіс перад тым, як агучыць дэталі паправак да закона. Планавалася забараніць рэкламу алкаголю, павялічыць узроставы цэнз пры набыцці алкагольных напояў да 20 гадоў, скараціць час продажу алкаголю ў будзённыя дні з 10 раніцы да 20 вечара і ў нядзелю — з 10 да 15 гадзін.

У адказ на антыалкагольныя захады ўладаў тэрмінова паўстала «алкагольнае лобі». Планы ўраду выклікалі сур'ёзную заклапочанасць ва ўладальнікаў гандлёвых сетак, турыстычнага бізнесу, а таксама арганізатараў рознага кшталту фестываляў, якія маюць уплывовых лабістаў у лакальных органах улады. Супраць «сухога закона» таксама выступілі мэры найбуйнейшых гарадоў Літвы. Бургамістры баяцца, што турыстычная прывабнасць гарадоў, дзе алкаголь увечары нельга набыць, будзе больш нізкай.

«Алкагольнае лобі» сфармулявала сваю пазіцыю таксама са спасылкай на лічбы. Паводле дадзеных экспертаў за 2016 год, большасць літоўцаў ужывалі алкаголь у хатніх умовах, а 10 працэнтаў літоўцаў выпілі каля 37% усяго спажыванага ў краіне алкаголю. Іншымі словамі, абмежаванне продажу не адаб'ецца на пабытавым характары спажывання алкаголю і яго аматарах.

Супраць выступіла і частка моладзі, якая пабачыла ў законе замах на прыватныя свабоды, і наогул назвала яго абсурдным. Уявіце маладую літоўскую сям'ю, дзе, як часта бывае, муж старэйшы за 20 гадоў, а жонцы 20 гадоў яшчэ няма. Калі закон будзе прыняты, можа паўстаць кур'ёзная сітуацыя, калі муж пойдзе ў бар выпіць піва, а яго другая палова па законе павінна будзе стаяць ля ўваходу ва ўстанову. Каб не дапусціць у



Фота www.g4.dcdn.lt

**Калі справа дайшла да галасавання, сацыял-дэмакраты зарэкамендавалі сябе як апартуністы: яны пагадзіліся з усімі абмежаваннямі, супраць якіх яшчэ ўчора выступалі**

будучыні такога кшталту сітуацый, супраць гэтага закону ў буйных гарадах краіны прайшлі канцэрты з удзелам найбольш вядомых рок-музыкаў.

Лідар сацыял-дэмакратаў, якія таксама ўваходзяць ва ўрадавую кааліцыю, Гінтаўтас Палуцкас раптам паведаміў, што сацыял-дэмакраты ўхваляюць толькі 3 з 15-ці прапаноў партнёраў па кабінеце. У сваю чаргу, ужо згаданы эколаг-аграрый Рамунас Карбаўскіс заявіў, што ад галасавання сацыял-дэмакратаў па праекце наконт абмежавання алкаголю можа цалкам залежаць лёс кааліцыі.

Аднак, калі 26 мая справа дайшла да галасавання, сацыял-дэмакраты зарэкамендавалі сябе як самыя паслядоўныя апартуністы. Заявіўшы з трыбуны Сейма пра тое, што палітыка «Зялёных — Сялян» «дэманструе сумневы і непавагу да здольнасці паўналетняга чалавека адказна прымаць рашэнні», сацыял-дэмакраты пагадзіліся з усімі абмежаваннямі, супраць якіх выступалі яшчэ ўчора. Такую непаслядоўную лінію эксперты тлумачаць нежаданнем эсдэкаў губляць дзяржаўныя пасады — як следства магчымага краху існуючай кааліцыі.

Праўда, прыняты 26 мая закон усё ж больш ліберальны за той, які прапаноўваўся ад самага пачатку. У выніку муніцыпальныя ўстановы будуць мець права самі вырашаць пытанне гандлю алкаголем падчас масавых мерапрыемстваў. Рэкламай не будуць лічыцца назвы прадпрыемстваў, якія гандлююць алкаголем, лагатыпы або гандлёвыя знакі канкрэтных напояў.

Тым не менш, прадстаўнікі алкагольнага лобі незадаволеныя «падачкамі». Літоўскія вытворцы моцных напояў сцвярджаюць, што іх чакаюць цяжкія часы. Праз фактычную забарону рэкламы алкаголю ў выгадным становішчы апынаюцца іх замежныя канкурэнты, чыя рэклама будзе даходзіць да жыхароў Літвы праз замежныя СМІ і сацыяльныя сеткі. Прагназуюць, што павялічацца паездкі літоўцаў за мяжу, дзе алкаголь праз ніжэйшыя мясцовыя акцызы будзе таннейшы за літоўскі. Ужо ёсць прыклад Эстоніі, дзе пасля павышэння акцызаў краіна страціла 10 мільёнаў еўра — народ масава выправіўся набываць тое ж піва ў суседнюю Латвію.

Што тычыцца палітычных наступстваў рэформы, то тут пакуль шмат незразумелага. З аднаго боку, «Зялёныя — Сяляне», дзякуючы новаму закону, даводзяць, што яны не папулісты, а сапраўды заклапочаныя сітуацыяй на вёсцы — галоўнай ахвяры «зялёнага змея». То бок, пазіцыі ўраду ў рэгіёнах будуць больш устойлівыя. З іншага боку, наўрад ці новы закон прымусіць літоўцаў-алкаголікаў кінуць піць. Асноўныя прычыны цягі правінцыялаў да гарэлкі звязаныя з хранічным беспрацоўем, якое новы закон не ліквідуе.

«Увесь гэты вэрхал з антыалкагольным законам вельмі падобны на спробу адцягнення ўвагі ад важных для грамадства пытанняў — новага Працоўнага кодэксу і павышэння на 12 працэнтаў ПДВ на цэнтральнае ацяпленне. Так ці інакш, тое, што адбываецца, даводзіць ідэалагічны крызіс нашых партый. Тыя, хто пры ўладзе, хочуць застацца пры ўладзе, а тыя, хто ў апазіцыі, наадварот, мараць разваліць цяперашнюю кааліцыю і заняць кабінеты. Пазіцыя партый па ўсіх іншых пытаннях — дробныя і не вельмі важныя дэталі. Што тычыцца алкагольнага заканадаўства, думаю, што на гэтым гісторыя не скончыцца: незадаволенымі застануцца турсектар і шоў-бізнес, якія, дарэчы, і фінансаваў моладзевыя пратэсты. Хутчэй за ўсё, прадпрымальнікі, якія зацікаўленыя ў вялікіх фестывалях і турыстах, будуць намагацца неяк паўплываць на палітычны працэс», — падкрэсліў у каментары НЧ літоўскі прафсаюзны актывіст Эвальдас Бальчунас.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Святаслаў Вакарчук



Лідар папулярнага ўкраінскага гурта «Океан Эльзи» апынуўся ў цэнтры палітычных спекуляцый. Падставай сталі дадзеныя сакавіцкага сацапытання, якое быццам бы замовіла Адміністрацыя прэзідэнта. Паводле яго, Вакарчук разам з Пятром Парашэнкам і Юліяй Цімашэнка — найбольш перспектыўныя прэтэндэнты на пасаду кіраўніка дзяржавы на выбарах 2019 года.

Высокі ўзровень папулярнасці Вакарчука дазволіў некаторым экспертам казаць, што рок-музыку сапраўды рыхтуюць да палітычнай кар'еры. Аднак пакуль не зразумела, хто выступае яго патронам. Ёсць думка, што Вакарчука лабіруюць амерыканцы, якія раней арганізавалі яму стажыроўку ў Злучаных Штатах на факультэце публічнай палітыкі. Але таксама не выключана, што за раскруткай Вакарчука стаіць адміністрацыя Парашэнкі.

Кажуць, што ў штабе Парашэнкі паўстала ідэя вывесці музыку ў другі тур прэзідэнцкіх выбараў, дзе Вакарчук дакладна прайграе дасведчанаму Парашэнку. Вакарчук сапраўды выглядае больш слабым за сённяшняга кіраўніка дзяржавы. Аднак пры ўсіх хібах музыкі падобная гульня можа быць небяспечнай: людзі могуць абіраць па прынцыпе «хто заўгодна, толькі не Парашэнка».

Што тычыцца самога Вакарчука, то ён пазбягае пытанняў наконт магчымага вылучэння ў прэзідэнты.

### Кшыштаф Лазінскі



Польскі публіцыст, былы антыкамуністычны дысідэнт стаў новым лідарам Камітэту абароны дэмакратыі (KOD) — вядучай апазіцыйнай грамадзянскай ініцыятывы, якая яшчэ нядаўна была здольная выводзіць на вуліцы сотні тысяч чалавек.

Праўда, не факт, што KOD зможа застацца лідарам пратэстаў праз скандалы, на фоне якіх Лазінскі выйграў выбары. Напярэдадні былы лідар Матэвуш Кіёўскі быў абвінавачаны ў фінансавых махінацыях. Высветлілася, што Кіёўскі падпісаў кантракт на інфармацыйныя паслугі з фірмай, якая належала яго жонцы, і якая па факце нічога не зрабіла. У выніку з бюджэту зніклі 90 тысяч злотых. Як следства, Кіёўскі быў вымушаны адмовіцца ад высоўвання сваёй кандыдатуры на пасаду старшыні.

Лазінскі і яго каманда збіраюцца рэабілітавацца за кошт новых акцый, першая з якіх прызначаная ўжо на гэты ўік-энд. Аглядальнікі адзначаюць, што сапсаваны імідж Камітэта абароны дэмакратыі можа кепска паўплываць на тонус апазіцыі, аднак наўрад ці пратэстная хваля супраць кансерватыўнага ўраду «Права і Справядлівасці» (PiS) спыніцца.

### Дарын Кіртаакэ



Мэр Кішынёву, віцэ-старшыня Ліберальнай парыі Малдовы рашэннем суда затрыманы і змешчаны пад хатні арышт. Арыштаванаму мэру, адстаўка якога ўжо відавочная, прад'яўляюць выкарыстанне службовых паўнамоцтваў з мэтай асабістага ўзбагачэння на платных аўтапаркоўках.

Прычым, гэта далёка не першая карупцыйная афера, фігурантам якой з'яўляецца кіраўнік малдаўскай сталіцы. Тое, што за Кіртаакэ ўзяліся толькі зараз, тлумачаць нейкай сакрэтнай дамовай паміж сацыялістамі прапуцінскага прэзідэнта Дадона і ўрадавай партыяй дэмакратаў, за якой стаіць алігарх Плахатнюк. Ходзяць чуткі, што сацыялісты пагадзіліся на прапановы дэмакратаў у запланаванай выбарчай рэформе.

Што тычыцца лібералаў, дык яны так проста здавацца не збіраюцца. Гімпу, кіраўнік Ліберальнай партыі Малдовы і дзядзька арыштаванага мэра, асабіста заклікаў жыхароў сталіцы да забастовак у падтрымку Кіртаакэ. Адначасова чатыры міністры-лібералы падалі ў адстаўку ў знак пратэсту супраць арышту мэра, што, праўда, не выклікала крызісу — урад захоўвае падтрымку парламенцкай большасці праз галасы сацыялістаў.

Пакуль застаецца не зразумелым, як новы расклад у малдаўскай эліце паўплывае на геапалітычны выбар краіны, якая вельмі моцна пасварылася з Расіяй. Напярэдадні арышту Кіртаакэ малдаўскі МЗС выслаў з краіны чатырох расійскіх дыпламатаў.

# «Курапаты» пра Курапаты




Алена КІСЯЛЁВА

**Курапаты — гэта могілкі. Але могілкі не такія, дзе блізкія хаваюць і аплакваюць памерлых. Тых, хто ляжыць у курапацкай зямлі, бязлітасна расстрэльвалі сталінскія каты. А ахвяры не чакалі смерці, бо бралі з сабой посуд, грэбні, зубныя шчоткі. Жыць збіраліся... І забыцца пра гэта немагчыма...**

Узгадваю восеньскія Дзяды 1990 года. Пахмурны, сумны дзень, шмат знаёмых і незнаёмых неабыякавых людзей прыйшлі ў Курапаты, каб памянуць бязвінна расстраляных продкаў. Памятаю, як пасля набажэнства ля галоўнага, усталяванага першым, крыжа раптам з машыны з гукаўзмацняльнікам пачулася музыка — шчымлівая, нібы вельмі трывожнае прадчуванне, гучала флейта. Людзі паціху рушылі ўгару па дарозе, з якой калісьці з задавальненнем з'язджалі лыжнікі, калі яшчэ не ведалі, што абапал. Праз некалькі імгненняў ледзь чутныя размовы зусім сціхлі. Гучала толькі незнаёмая музыка ў выкананні сімфанічнага аркестра.



Кім Цесакоў

Усё вакол — туга шэрых нябёсаў, нячутныя рухі галінак хвоі, такія ж нячутныя крокі носьбітаў народнай памяці, кранутыя смуткам твары — гэтая музыка гарманічна з'яднала ў агульны боль. Незвычайная пранікнёнасць, часам пранізлівасць гучання адпавядалі трагічнасці месца. Пакладзеныя кветкі. Запаленыя свечкі...

На пытанне наконт пачутага твора мне адказалі: Кім Цесакоў, Сімфонія №4 «Курапаты».

Увечары мы сядзелі з сябрамі за сталом, размаўлялі пра рэпрэсаваных бацькоў і дзядоў. Адна прыяцелька запытала, ці ведаю я, што за музыка гучала ў Курапатах. Астатнія таксама выказалі цікаўнасць. Пытанне было да мяне як да музыканткі. Я прызналася, што пачутае і мне было незнаёмым, але пашанцавала даведацца. Назвала аўтара і твор.

Усе мае сябры адзначылі, што тую музыку немагчыма было не слухаць...

Як жа я была ўражаная, калі праз тры гады лёс звёў мяне з ім — аўтарам сімфоніі «Курапаты», вядомым беларускім кампазітарам Кімам Дзмітрыевічам Цесаковым.

На апошнім курсе навучання ў Беларускай Акадэміі музыкі мне прапанавалі пісаць дыпломную працу па ягоным творы — кантаце-дзействе «Купалле». Працавала я з натхненнем, бо твор вельмі кранаў. Як у такім выпадку не з'явіцца жаданню звярнуцца да кампазітара, каб высветліць узніклыя ў працэсе працы пытанні і, канешне, дзеля знаёмства з дзеячам такога маштабу? Мне пашанцавала дамовіцца пра кансультацыю ў Ліцэі пры Акадэміі, дзе выкладаў Кім Дзмітрыевіч. Мяне ўразіла цёплая прастата Цесакова, чалавечая абаяльнасць, уважлівасць і павага да суразмоўцы — якасці, уласцівыя толькі людзям высокай культуры.

А калі пытанні па дыплому былі вырашаны, на маю радасць, размова працягнулася наконт лёсу Беларусі. І я скарыстала магчымасць распавесці пра «Дзяды» 1990-га, пра тое, як непадрыхтаваныя да праслухоўвання сур'ёзнай сучаснай музыкі людзі так блізка да сэрца ўспрынялі сімфонію «Курапаты».

А далей адбылося тое, на што я не разлічвала, — маэстра распавёў пра гісторыю ўзнікнення твора.

Праўда пра ўрочышча Курапаты, адкрытая беларускаму грамадству Зянонам Пазьняком, і звязаная з ёй тэма сталінскіх рэпрэсій узрушылі кампазітара да самых глыбіняў душы. Разважанні над трагедыяй не адпускалі ад сябе, і Кім Дзмітрыевіч вырашыў, што менавіта ён павінен напісаць музычны твор, прысвечаны тым падзеям, і што працаваць трэба ў самым сур'ёзным музычным жанры — сімфоніі.

Былі прапрацаваны практычна ўсе вядомыя на той час дакументальныя сведчанні масавых расстрэлаў грамадзян Беларусі. Згадзіцеся, звярнуцца ў творчасці да тэмы Курапатаў у канцы 1980-х гадоў быў здольны толькі чалавек з вельмі моцнай грамадзянскай пазіцыяй. Нават зараз, амаль праз 30 гадоў, гэтая тэма шмат каму не даспадобы. У той жа час быў нават выпадак, калі прадстаўнік ЦК адгаворваў Цесакова ад гэтай ідэі. Маўляў, тэма антысавецкая, а расстрэльвалі людзей не службоўцы НКУС, а немцы на пачатку вайны. Але перакананняў кампазітара работнік ЦК пераадолець не змог. Цесакоў упэўнена адстаяў сваё рашэнне ствараць на тэму рэпрэсій.

Тое, што творца жыве непадалёк ад Курапатаў, пасадзейнічала частаму наведванню сумнай мясціны. Кампазітар шматразова прыходзіў у лес і раніцай, і ўдзень, і нават ноччу запальваў свечкі, пранікаўся энергетыкай гэтага страшнага месца. Менавіта ўначы ён быццам пачуў аддаленыя жаночыя галасы, якія перагаворваліся паміж сабой, нібы скардзіліся...

Пасля двух гадоў працы 8 лютага 1990 года аўтарскі рукапіс партытуры быў завершаны. На першай яго старонцы такія словы: «Куропаты» — совесть и боль людская... В двух километрах под Минском покоятся останки четверти миллиона невинных жертв сталинизма, расстрелянных в 1937–1941 годах... Память им вечная... Автор».

Сродкамі сімфанічнага аркестра выразна агучаны і трывога, і жудасны страх, і халодная бязлітаснасць, і жах, што ахапілі безабаронных людзей, ды іншыя адценні пачуццяў, якія здольная перадаць толькі музыка. Менавіта тымі пачутымі жаночымі галасамі — дыялогам габоя, флейты і валторны, — пачынаецца другая частка сімфоніі. Амаль сорак хвілін хвалюючага гучання...

Прэм'ерным выкананнем сімфоніі «Курапаты» пад кіраўніцтвам любімага і паважанага музыкантамі і слухачамі маэстра Юрыя Яфімава быў адкрыты філарманічны сезон 1990 года.

Пасля былі іншыя выкананні, у тым ліку вядомым дырыжорам Генадзем Праваторавым. Сімфонія гучала і ва Украіне, і ў Расіі. У 1991 годзе за напісанне гэтага твора Кім Цесакоў быў адзначаны прэміяй прафсаюзаў Беларусі.

Значным з'явіўся ўдзел у лёсе сімфоніі «Курапаты» сусветна вядомага дырыжора Яўгена Святланава. Сталася так, што Кім Цесакоў і Яўген Святланаў сустрэліся ў адным з Дамоў творчасці ў Карэліі. У размове Святланаў пацікавіўся, над чым зараз працуе кампазітар. У той час якраз стваралася сімфонія. Пра трагедыю Курапатаў Святланаў ужо чытаў. Ён выказаў жаданне пазнаёміцца з творам па сканчэнні працы над партытурай. Такім чынам, у 1991 годзе сімфонія «Курапаты» была ўзятая дырыжорам у працу. Паколькі Святланаў у сувязі з гастролямі ў СССР бываў зрэдку, ён паабяцаў выканаць сімфонію ў іншай краіне. У 1992-м у Мадрыдзе слухачы пачулі твор, прысвечаны трагедыі беларускіх Курапатаў.

Пазней Цесакоў атрымаў ад Святланава афішу, на якой выдатны дырыжор пакінуў свой аўтограф: «Уважаемый маэстро, Вы написали сочинение мирового уровня».

Летась заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, сусветна вядомы кампазітар Кім Дзмітрыевіч Цесакоў адзначыў свой 80-гадовы юбілей.

Хочацца яшчэ дадаць некаторыя звесткі пра майстра.

Кім Цесакоў — адзіны з беларускіх кампазітараў мае ў дыпломе аб заканчэнні Новасібірскай кансерваторыі подпіс Дзмітрыя Шастаковіча, у якога меў шчасце вучыцца. Нагадаю, што карані Шастаковіча таксама з Беларусі.

Цесакова звязвала сяброўства з Васілём Быкавым і Рыгорам Барадуліным. Як мастак, ён звяртаўся да паэзіі Купалы, Танка, Панчанкі, Бураўкіна, Гілевіча, Грахоўскага, Прыходзькі, Вярбы, Бялевіча.

Запісаны пяць кампакт-дыскаў буйных твораў кампазітара, яны захоўваюцца ў бібліятэках Саюза кампазітараў, Беларускай Акадэміі музыкі і тэатральнай.

Кім Цесакоў — ганаровы грамадзянін горада Чэрвеня, дзе ён нарадзіўся. У Саюзе кампазітараў працуюць 17 яго вучняў. І, урэшце, ён — адзіны з беларускіх кампазітараў, які стварыў манументальны музычны твор на тэму Курапатаў.

Упэўнена, што гэту сімфонію здольныя сапраўды адчуць і ацаніць перш за ўсё людзі з дарам гістарычнай памяці і бязмежнай любові да Беларусі. Сімфонія «Курапаты» павінна гучаць і быць пачутай, а не ляжаць у сховішчах бібліятэкі. Тым больш, што за гэтыя гады з'явілася шматлікая цудоўная, адданая Беларусі моладзь, якая, хутчэй за ўсё, пра гэты твор і не ведае. Мару пра тое, як зноў з даўнімі і новымі сябрамі буду слухаць «Курапаты» ў Курапатах.



# «Антысавецкія агітатары»

Уладзімір ВАЛОДЗІН

**Сталінскія рэпрэсіі да гэтага часу застаюцца ў Беларусі не да канца асэнсаваным і не пераадоленым мінулым, а тысячы іх ахвяр — не рэабілітаванымі. Больш за тое, цэлыя катэгорыі асуджаных нават не лічацца ахвярамі рэпрэсій.**

Заканадаўства розных рэспублік СССР мела свае асаблівасці. Меў асаблівасці і Крымінальны кодэкс БССР 1928 года. У ім быў артыкул 103 (агітацыя і прапаганда супраць парадку дзяржаўнага кіраўніцтва), аналаг якому адсутнічаў у Крымінальным кодэксе РСФСР 1926 года.

Артыкул, з улікам унесеных у 1930 і 1931 гадах зменаў, гучаў наступным чынам (тут і далей захаваны правапіс арыгіналу дакументаў. — аўт.): «103. а) Агітацыя і прапаганда, у якіх ёсць заклік да ўчынення злачынстваў, прадугледжаных артыкуламі 92 — 95 і 97 — 101, або да невыканання ці перашкоды ажыццяўленню мерапрыемстваў і загадаў органаў савецкай улады, а таксама загатаўленне, захаванне і распаўсюджанне літаратурных твораў для такой агітацыі і прапаганды выклікаюць — пазбаўленне свабоды да пяці год. б) Такія самыя дзеянні, калі яны звязаны са скарыстаннем рэлігійных забабонаў мас або былі ўчынены ў час вайны і мелі на мэце невыкананне грамадзянамі ўскладзеных на іх ваенных або звязаных з ваеннымі дзеяннямі абавязкаў і павіннасцей, выклікаюць — пазбаўленне свабоды не менш як на тры гады. Такія самыя дзеянні, калі яны ўчынены кулакамі, апрача ўказаных мер сацыяльнай абароны, выклікаюць — канфіскацыю маёмасці».

У тэксце артыкула 103 згаданыя іншыя артыкулы: 92 (сукрыццё або няверная паказанне колькасці належачых да абкладання або падліку прадметаў), 93 (няплата падаткаў), 94 (адмаўленне выконваць павіннасці і работы, якія маюць агульнадзяржаўнае значэнне), 95 (адмаўленне або ўхіленне ад унясення падаткаў або ад выканання павіннасцей, калі яны арганізаваны па ўзаемнай згодзе), 97 (парушэнне правіл уліку ваеннаабавязаных і ваеннаслужачых), 98 (ухіленне ад дапрызыўнай падрыхтоўкі і праверачных збораў) і да таго падобнае. Але фармулёўка артыкула з яго прымяненнем у жыцці мела мала агульнага.

4 жніўня 1935 года суд 3 участка горада Мінска ў складзе суддзі Манько, засядацеляў Шымковіча і Баркоўскага пры сакратары Стрыгун разглядаў крымінальную справу Аляксея Фёдаравіча Змітровіча. Справа разглядалася без удзелу пракурора і адваката. Аляксей Змітровіч, калгаснік калгасу «Зара» Астрашыцка-Гарадоцкага сельсавета Мінскага раёна, беларус, непісьменны, беспартыйны, жанаты, нарадзіўся ў 1898 годзе, меў 4 утрыманцаў, паходзіў з сялян-сераднякоў вёскі Галіца Астрашыцка-Гарадоцкага сельсавета. Яго прызналі вінаватым у тым, што ён «на працягу 1935 года сістэматычна праводзіў адкрытыя выступленні супраць мерапрыемстваў калгаснага будаўніцтва і савецкай улады». У прыватнасці, Змітровіч «вясной у 1935 годзе на адчыненым сходзе калгаснікаў выступіў і выказаў, што рабочым бульбы прадаваць не трэба, дадаўшы «чарцям гэтым». Вясной у 1935 годзе, прывезшы буракі на малочную ферму калгаса, са злосцю кідаў бураком у партрэт т. Сталіна». Апрача таго, падсудны «сістэматычна падбухторваў калгаснікаў спазняцца на работу. Сам сістэматычна спазняўся».

Па артыкуле 103а КК БССР Змітровіча асудзілі да двух гадоў пазбаўлення свабоды. Мерай стрымання да ўваходжання прысуду ў законную моц яму была абрана падпіска аб нявыездзе. Селянін абскардзіў прысуд у Вярхоўны суд БССР. 21 кастрычніка 1935 года касацыйная калегія Вярхоўнага суда ў складзе суддзяў Еліна (старшыня пасяджэння), Белкінд і Родава пераглядала справу. Справа пераглядалася не толькі ў адсутнасць пракурора і адваката, але нават і падсуднага. Калегія палічыла прысуд вынесеным слушна і пакінула скаргу без задавальнення.

2 снежня 1935 года суд 3 участка горада Мінска (суддзя Манько, засядацелі Станішэўскі і Нарэйка, сакратар Стрыгун) разглядаў крымінальную справу Максіма Якімавіча Баяровіча, 66 гадоў, беларуса, непісьменнага, жанатага. У 1931–1932 гадах гаспадарка яго абкладвалася цвёрдым заданнем, то бок на той час ён у калгас не ўваходзіў і заставаўся аднаасобнікам. У далейшым Максім Баяровіч быў змушаны ўступіць у калгас «Чырвоны баец» Навадворскага сельсавета.




**Артыкул 103 КК БССР быў адменены 6 снежня 1937 года «в связи с тем, что преступления, предусмотренные ст. 103 Уголовного кодекса БССР, относятся к контрреволюционным и к ним может применяться ст. 72 Уголовного кодекса». Такім чынам, самі ўлады БССР лічылі артыкул 103 «палітычным»**

Падсуднага прызналі вінаватым у тым, што «5 мая 1935 года будучы выпіўшы прышоў на калгасны сход, дзе праводзілася падпіска на заём 3 года 2-й пяцігодкі, і, каб перашкодзіць ходу падпіскі, выступіў і сказаў, што ў полі ўраджай дрэнны, на працадні калгаснікі атрымаюць мала, а пагэтаму падпісацца на заём ён можа толькі на 15% руб. (так у дакуменце)». Можна лічыць, што Максіму Якімавічу пашанцавала — на той раз яго толькі запалохалі. Суд прыняў пад увагу, што падсуднаму 66 гадоў, таму «ізаляваць яго немэтазгодна», і асудзіў па артыкуле 103а КК БССР да 2 гадоў зняволення ўмоўна з папраўчым тэрмінам 1 год. Верагодна, на вырак паўплывала тое, што ў Баяровіча быў абаронца (адвакат). Захавалася толькі прозвішча адваката — Разенталь.

Значна менш пашанцавала наступнаму асуджанаму. 6 жніўня 1936 года суд 3 участка г. Мінска (суддзя Сідронскі, сакратар Галавач, прозвішчы засядацеляў у прысудзе напісаны неразборліва) разглядзеў крымінальную справу Уладзіміра Мікалаевіча Мысліўчыка, беспартыйнага разведзенага калгасніка, які нарадзіўся ў 1904 годзе, меў ніжэйшую (так у дакуменце) адукацыю, быў судзімы ў 1932 годзе, да ўступлення ў калгас меў 3,035 га зямлі, аднаго каня і адну карову і паходзіў з сям'і земляроба вёскі Кайкава Кайкаўскага сельсавета Мінскага раёна.

Суд палічыў Мысліўчыка вінаватым у тым, што, «уступая ў калгас 3 разы, ён з калгаса 2 разы выступаў, пацягнуў за сабой і іншых калгаснікаў пад відам «дрэнна жыць у калгасе», падгаворваючы сваю жонку, каб апошняя забрала з калгаса каня абагуленага. Сістэматычна з'яўляўся на сходы калгаснікаў і пасяджэнні праўлення ў п'яным становішчы, на якіх выступаў без дазволу старшыні праўлення калгаса ці старшыні прэзідыума сходу, не даючы выступаць запісаўшымся для выказвання, нягледзячы на тое, што бываў некалькі разоў выведзеным са сходу. Крычаў, што газеты пішуць — гэта ўсё чапуха і няпраўда, і калі хочаш праўду сказаць, то неадкладна высылаюць, як Троцкага выслалі ў Турцыю, што пры цары жылося лепей, [чым] цяпер пры савецкай уладзе. Меў у калгасе таварыша, былога гарадавога царскага часу, з якім выпіваў. Замаскіроўваў сябе тым, што часамі выказваў сваё знанне пастаноў партыі і ўлады, ходзячы заўсёды з такавымі ў кішэнях».

Гэтымі дзеяннямі, па меркаванні суда, Мысліўчык «як агент класавага ворага і падкулачнік вёў агітацыю і прапаганду супраць мерапрыемстваў нашай КП(б)Б і савецкай улады». Яго асудзілі па артыкуле 103а КК БССР да «пазбаўлення свабоды ў адлеглых мясцовасцях СССР тэрмінам на пяць год з паражэннем у правах палітычных на тры гады». Мерай стрымання да ўступлення прысуду ў законную сілу было абрана ўтрыманне асуджанага ў Мінскай турме.

Уладзімір Мысліўчык абскардзіў прысуд у Вярхоўны суд БССР (нездарма ж ён вучыў «пастановы партыі і ўлады»). 2 верасня 1936 года касацыйная калегія Вярхоўнага суда (старшыня пасяджэння Табачнікава, члены Самойліч і Ляльчук) разглядзела справу №6326/69. Прысуд суда першай інстанцыі быў пакінуты ў сіле.

Артыкул 103 КК БССР быў адменены пастановай Прэзідыума Цэнтральнага выканаўчага камітэта БССР 6 снежня 1937 года «в связи с тем, что преступления, предусмотренные ст. 103 Уголовного кодекса БССР, относятся к контрреволюционным и к ним может применяться ст. 72 Уголовного кодекса». Такім чынам, улады БССР лічылі артыкул 103 «палітычным» і ўрэшце, на грэбні вялікага тэрору, прыраўнялі яго да артыкула 72 (агітацыя і прапаганда, у якіх ёсць заклік да звяржэння, падрыву ці аслаблення савецкай улады).

У сваю чаргу, артыкул 72 КК БССР 1928 года быў копіяй артыкула 5810 КК РСФСР 1926 года. Гэта быў самы распаўсюджаны палітычны артыкул у 1930-я гады і пазней. На піку рэпрэсій, у 1937 годзе, за «антысавецкую агітацыю» ў СССР было асуджана больш за 234 тысячы чалавек. У іншыя гады колькасць асуджаных за «антысавецкую агітацыю» складала дзясяткі тысяч штогод. Санкцыя па гэтым артыкуле вагалася ад пазбаўлення свабоды на тэрмін не ніжэй за 6 месяцаў да расстрэлу.

Каб прадэманстраваць «народнасць» артыкула, далёка хадзіць не трэба. Вось лёс земляка з аднолькавым з Уладзімірам Мікалаевічам прозвішчам, Міхаіла Фаміча Мысліўчыка, таксама калгасніка з вёскі Кайкава (звесткі ўзятыя са складзенай міжнародным таварыствам «Мемарыял» базы дадзеных «Ахвяры палітычнага тэрору ў СССР»). Міхаіл Мысліўчык быў арыштаваны 23 сакавіка 1935 года, а 22 мая прыгавораны асобай нарадай да трох гадоў ссылкі за «антысавецкую агітацыю». 30 красавіка 1938 года яго арыштавалі паўторна ва Уфе, дзе ён працаваў грузчыкам на чыгуначнай станцыі, а затым прыгаварылі па артыкуле 5810 да пазбаўлення свабоды тэрмінам на 5 гадоў. Міхаіл Мысліўчык, у адрозненне ад Уладзіміра, быў рэабілітаваны ў 1989 годзе па абедзвюх справах.

Пасля смерці Сталіна артыкул не быў адменены, а толькі перафармуляваны. У новых крымінальных кодэксах савецкіх рэспублік, якія былі прынятыя ў 1960–1961 гадах, з'явіліся артыкулы «антысавецкая агітацыя і прапаганда» (арт. 70 КК РСФСР, арт. 67 КК БССР). Асуджаць за «антысавецкую агітацыю» працягвалі да сярэдзіны 1980-х.

Калі ў 1990-я гады ў Беларусі праводзілася рэабілітацыя, рэабілітавалі асуджаных за так званыя «контррэвалюцыйныя злачынствы» па артыкулах 63–76 Крымінальнага кодэкса БССР 1928 года. Артыкул жа 103 знаходзіўся ў іншым раздзеле («злачынствы супраць парадку дзяржаўнага кіравання»), і выглядае, што асуджаных па ім не рэабілітавалі. Дакладна застаюцца не рэабілітаванымі Аляксей Змітровіч, Максім Баяровіч і Уладзімір Мысліўчык — іх імёнаў няма ў базе дадзеных «Неабгрунтавана рэпрэсаваныя грамадзяне Беларусі». Гэты прабел неабходна ліквідаваць і рэабілітаваць усіх асуджаных па артыкуле 103 КК БССР 1928 года.

***Рэдакцыя «Новага Часу» просіць звязацца з намі сваякоў згаданых у гэтым артыкуле рэпрэсаваных ці іншых людзей, якія што-небудзь ведаюць пра іх лёс.***

# Вяртаючыся да юбілею Вітаўта Кіпеля

Леанід ЛЫЧ

**У мяне часта ўзнікае пытанне: чаму многія закінутыя на чужыну беларусы жывуць даўжэй — і жывуць творча, з вялікай карысцю для нацыянальнай справы — за сваіх суродзічаў, не адарваных ад Бацькаўшчыны?**



Сяргей Навумчык, Вітаўт Кіпель, Івонка Сурвіла, Зянон Пазьняк

А чаму ж у нашай незалежнай, да таго ж, як любяць заяўляць палітыкі, сацыяльна арыентаванай краіне, дзе колькасць беларусаў у разы перасягае лік іх суродзічаў за мяжой, ніхто з прадстаўнікоў творчай навуковай інтэлігенцыі не дажывае да стогадовага юбілею, а калі перакрочыў 90-годдзе, асабліва не вызначаецца актыўнасцю, вядзе пасіўны лад жыцця? А сучаснай жа Беларусі, тытульны народ якой так раз’ядае русіфікатарская палітыка ўласнай дзяржавы, як ніколі раней, патрэбныя асобы высокай творчай актыўнасці трывалага нацыянальнага гарту. Даўно не маем крытычнай масы такіх асобаў: хтосьці без пары адышоў у замагільны свет, хтосьці кінуў краіну з хворым на нацыянальны нігілізм насельніцтвам і ў пошуках асабістага шчасця падаўся за мяжу.

Зусім іншыя прычыны развітацца з любімай Айчынай былі ў Вітаўта Кіпеля. У іх ні грама меркантылізму, уласцівага большыні беларускай эміграцыі канца 1980-х гадоў і сучаснай. Для Кіпеля заставацца ўлетку 1944-га ў Беларусі — азначала б атрымаць не менш як 25 гадоў зняволення ў сталінскіх лагерах. Трэба было зусім не мець галавы, каб у той сітуацыі заставацца ў Беларусі, хаця і любячы яе, як родную маці.

Такія суровыя меры пакарання чакалі 17-гадовага Вітаўта галоўным чынам па прычыне службы яго бацькі Яўхіма Кіпеля ў створаных акупантамі ў Беларусі адміністрацыйных органах. А тая служба была зусім не простай. Пэўны час ён працаваў у Інспектарыяце беларускіх школ пры Генеральным камісарыяце Беларусі. Дзякуючы такім службоўцам, як Яўхім Кіпель, школа ў гады акупацыі не стала сродкам анямечвання маладых пакаленняў беларускага народа, узгадоўвала іх у адпаведнасці з культурна-моўнымі традыцыямі роднай зямлі.

У тыя гады давялося і мне вучыцца і закончыць 6-ты клас. Чаму-небудзь супярэчнаму прагрэсіўным прынцыпам чалавецтва нас ніхто не вучыў. І ўсё ж тыя, хто ў гады акупацыі працаваў у школах, не мелі пашаны ў аднаўленай у Беларусі савецкай улады. А хто займаў кіраўнічыя пасады ў створанай немцамі сістэме адукацыі, падлягаў непамерна строгаму пакаранню.

Гэтага было дастаткова для Яўхіма Кіпеля, каб да прыходу Чырвонай Арміі разам з сям’ёй пакінуць краіну. Да таго ж, калі 27 чэрвеня 1944 года ў Мінску праходзіў Другі Усебеларускі кангрэс, ён быў абраны за яго прэзідэнта, неаднаразова прамаўляў з трыбуны. Ад яго былі пачуты і такія словы: «Ад нашага імя дазваляюць сабе гаварыць крамлёўскія заправілы. Яны там вызначаюць апекуноў, якія ўжо рыхтуюць шыбеніцы нашаму народу». Народу — пытанне, а вось удзельнікам Кангрэсу, а тым болей яго прэзідэнту, — напэўна ж. З бацькам падаўся на захад і сямнаццацігадовы Вітаўт.

У чужых краях, дый яшчэ ў нечувана суровых умовах вайны, жыццё ні ў каго не магло быць спакойным. Можна толькі здзіўляцца ўменню Вітаўта і многіх яго сяброў правільна абіраць шляхі для жыцця ў выгнанні.

А пачалося ўсё з вучобы ў створанай у Заходняй Германіі гімназіі Янкі Купалы. Наўрад ці можна было б у савецкай Беларусі сустрэць хоць адну сярэднюю агульнаадукацыйную ці спецыяльную навучальную ўстанову з такім высокім узроўнем прафесійнага майстэрства педагогаў. Назаву толькі некаторых з іх: добра вядомыя ў міжваеннай Беларусі педагогі — дырэктар гімназіі Аляксандр Орса (выпускнік славутага ў Еўропе Карлава ўніверсітэта ў Празе), настаўнік беларускай мовы і літаратуры Аўген Кахаnoўскі (сапр. Калубовіч; перад вайной працаваў кансультантам-метадыстам у апараце Наркамасветы БССР). Заняткі па гісторыі Беларусі вёў доктар Янка Станкевіч (адзін час выкладаў у Віленскім і Варшаўскім універсітэтах), па спевах — не проста настаўнік, а сам кампазітар Мікола Равенскі. І не дзіва, што з той гімназіі выйшлі ў свет людзі, якімі не можа не ганарыцца беларускі народ.

Навучальныя ўстановы тыпу гімназій давалі іх выпускнікам права паступаць ва ўніверсітэты. І вось Кіпель сярод студэнтаў Каталіцкага ўніверсітэта бельгійскага горада Лювен. Радавала, што ўніверсітэт вывучыў не аднаго беларуса, прычым зусім неабавязкова каталіцкага веравызнання. Былі і праваслаўныя — напрыклад, добра вядомы ў шырокіх колах беларускага грамадства Янка Запруднік.

Амаль усе беларусы, што скончылі Лювенскі ўніверсітэт, сталі выдатнымі прафесіяналамі сваёй справы. Для Кіпеля ёю з’яўлялася геалогія. Стаў нават доктарам геалагічных навук.

Як і многія беларускія эмігранты летняй хвалі 1944 года, Вітаўт Кіпель сталым месцам жыцця выбраў ЗША. Тут ён пэўны час працаваў у розных навукова-прамысловых кампаніях, у Балтыморскім універсітэце, знаходзячы час і для ўдзелу ў дзейнасці грамадскіх арганізацый беларускіх эмігрантаў: Беларускім камітэце палітычных дзеянняў, Федэрацыі беларускіх рэспубліканскіх клубаў ды інш.

Кіпель мог бы стварыць для сябе даволі прыстойную кар’еру. У 28 гадоў ён з поспехам абараніў доктарскую дысертацыю па мінералогіі. У ЗША асобы такой спецыяльнасці заўжды мелі і маюць добры заробак. Але Кіпеля ён не дужа цікавіў, бо не даваў прасторы спраўдзіцца ў сваёй атрыманай ад самой прыроды беларускасці. Таму ён паступіў і закончыў бібліятэчны факультэт, што прывяло нашага сённяшняга юбіляра ў Нью-Ёркскую публічную бібліятэку. Па колькасці беларускіх кніг (знаходзяцца ў адмысловым аддзеле) з ёю не можа параўнацца аніводная з такіх установаў замежжа. Роля Кіпеля і яго светлай памяці жонкі Зоры Кіпель у гэтым папросту ўнікальная.

Працы ў той бібліятэцы Кіпель аддаў 20 гадоў жыцця (1962–1982), што пайшло на вялікую карысць не толькі беларускай справе, але і паспрыяла росту яго аўтарытэту сярод суайчыннікаў, шырокіх творчых колаў амерыканскага грамадства і нават урадавых структур. І калі ў 1982 годзе ўзнікла неабходнасць абраць кагосьці на пасаду старшыні Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку, лепшай за Кіпеля кандыдатуры на гэтае месца не знайшлі. І мелі рацыю. Тут наш суродзіч напоўніцу выявіў свой талент кіраўніка, паказаў, як многае для яго значыць самаадданае служэнне беларускаму нацыянальнаму інтарэсу.

Згаданы Інстытут навукі і мастацтва выдаваў для беларускай эміграцыі навуковы часопіс «Запісы» (з 1952 г.). У ім друкаваліся такія матэрыялы, пра якія і марыць не маглі дапытлівыя чытачы з савецкай Беларусі. Асабліва грунтоўна і аб’ектыўна асвятлялася яе нацыянальная палітыка, пра што не любілі пісаць бальшавіцкія ідэолагі. У «Запісах» друкаваліся артыкулы і самога Кіпеля.

Вітаўт Кіпель — заўважная асоба для многіх беларусаў, прычым не толькі ЗША, дзе ён жыве з 1955 года, але і метраполіі, якую яму не даводзіцца наведваць ужо каля дзесяці гадоў. Не сумняваюся, шмат што добрага сказана пра юбіляра. Лаканічны сказ вядомага беларускага пісьменніка, грамадскага дзеяча з Беласточчыны Алеся Барскага: «Сярод амерыканскіх беларусаў моцна ззяе зорка Кіпеля» аб’ектыўна паказвае месца гэтага чалавека ў асяроддзі нашай дыяспары ў ЗША. Але не будзе перабольшаннем, калі сцвердзім, што зорка Кіпеля моцна ззяе і сярод усёй нацыянальна свядомай часткі беларускай дыяспары, ярка ззяе і ў самой Беларусі.

Здароўя Вам, шаноўны спадар Вітаўт, на доўгія гады і новых творчых набыткаў.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51,
novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.
ЛП №02330/190 ад 30.04.2004. Замова №518

Падпісана да друку 02.06.2017. 8.00.
Наклад 3000 асобнікаў. Кошт свабодны.